ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Год выдання 39-ы

№ 57 (2518)

ПЯТНІЦА 30 кастрычніка 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ



**ВОСЬ ТАК** — плячо да пляча — яны і ў песні, і ў працы. Дружныя і вясёлыя, галасістыя, як на падбор. Пра іх, хор даярак калгаса «40 год Кастрычніка» Петрыкаўскага раёна, коціцца слава па ўсім Палессі. Спяваюць яны народныя песні, спяваюць у сваёй манеры — аб цудоўным Палескім краі, аб шчасці жыць, працаваць, кахаць пад мірным небам Бацькаўшчыны. Слухаеш — і замірае сэрца, поўніцца хараством душа, і расце здзіўленне: колькі ў народзе самабытных талентаў! Колькі самабытных перлаў-песень, якіх спяваць—не праспяваць... Бруіць і ніколі не перасохне крыніца народнай творчасці.

Зараз харысткі рыхтуюць новую вялікую святочную праграму, якую пакажуць не толькі ў навакольных вёсках, але і ў суседніх раёнах.

На першым плане здымка—даярка-харыстка Таццяна Міронаўна Захарчук.

Фота І. ЗМІТРОВІЧА. (БЕЛТА).

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

# КРОК У КРОК З ЧАСАМ

## З МАГІЛЁЎСКАЙ АБЛАСНОЙ НАРАДЫ ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ

МІХАІЛ ШОЛАХАЎ сказаў аднойчы, што савецкія пісьменнікі пішуць па загадзе сэрца, а іх сэрцы належаць Камуністычнай партыі.

Гэтыя словы сталі крылатымі, з поўным правам іх можна адрасаваць усёй нашай творчай інтэлігенцыі. Прасякнутая высакародным духам партыйнасці, служэння справе народа, савецкае мастацтва і літаратура ператварыліся ў магутную сілу камуністычнага выхавання.

Пра месца савецкага пісьменніка, мастака, музыканта, артыста ў сённяшнім бурлівым дні, пра высакародныя задачы, якія стаяць перад імі, ішла прынцыповая, дзелавая, вельмі цікавая гаворка на магілёўскай абласной нарадзе творчай інтэлігенцыі.

Сённяшняя Магілёўшчына — гэта квітнеючы край з высакаразвітай прамысловасцю і сельскай гаспадаркай. Сённяшняя Магілёўшчына—гэта край суцэльнай пісьменнасці, край высокай культуры, дзе шмат чытаюць, дзе любяць і разумеюць добрую кнігу, харошую музыку, высокамастацкі фільм.

Вось некалькі фактаў, лічбаў, якія называліся ў дакладзе паршага сакратара абласнога камітэта КПБ Г. Крыуліна, у выступленнях удзельнікаў нарады. У вобласці працуюць два прафесійныя драматычныя тэатры і каля трох тысяч калектываў мастацкай самадзейнасці, якія аб'ядноўваюць больш 32 тысяч ўдзельнікаў. Сярод гэтых калектываў такія шырока вядомыя, як народная харавая капэла і народна-сімфанічны аркестр Магілёўскага гарадского Дома культуры, народны ансамбль танца і народны агіттэатр «Усмешка» Палаца культуры камбіната штучнага валакна імя В. В. Куйбышава, народны цымбальны аркестр Асіповіцкага раённага Дома культуры.

У вобласці плённа працуюць пісьменнікі, мастакі, артысты, добра вядомыя працоўным Магілёўшчыны, паважаныя ў рэспубліцы. Гэта лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі паэт Аляксей Пысін, народныя артысты Сяргей Бульчык, Мікола Радзіёнаў і іншыя.

Удзельнікі нарады адзначылі, што з асаблівай стараннасцю і ўздымам працуе творчая інтэлігенцыя Магілёўшчыны ў знамянальны год Ленінскага юбілею. Новыя кнігі, новыя канцэртныя праграмы, новыя мастацкія палотны, новыя архітэктурныя праекты—вось уклад мясцовых літаратараў, музыкантаў, артыстаў, дойлідаў ва ўсенародны рух, народжаны святкаваннем стогадовага юбілею Уладзіміра Ільіча Леніна і падрыхтоўкай да XXIV з'езда КПСС.

— Але мы б не былі ленінцамі,— сказаў Г. Крыулін,—калі б спыніліся на дасягнутым. Жыццё імкліва рухаецца наперад, адкрываючы новыя далягляды. Сучасны этап камуністычнага будаўніцтва аб'ектыўна ставіць перад творчай інтэлігенцыяй усё больш высокія і адказныя задачы. Быць на ўзроўні гэтых задач—яе ганаровы абавязак...

З вышыні гэтых задач і ішла на нарадзе зацікаўленая гаворка. Не было скідак ні на масцітасць, ні на былыя заслугі. Размова ішла па вялікім рахунку.

Шмат крытычных заўваг удзельнікі нарады зрабілі некаторым мясцовым літаратарам. Станоўча ацэньваючы творчасць пісьменнікаў вобласці, дакладчык і выступаючыя адзначылі, што абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі (адно з самых буйных сярод абласных аддзяленняў) не стала яшчэ па-сапраўднаму прыцягальным, арганізуючым цэнтрам літаратурных талентаў. У аддзяленні рэдка абмяркоўваюцца творы маладых, слаба яно працуе з літаратурнымі аб'яднаннямі.

— Мы амаль ніводнага разу не бачылі ў сябе старшыні аддзялення Пятра Шасцерыкова,—сказаў у сваім выступленні кіраўнік літаб'яднання пры бабруйскай газеце «Камуніст» А. Гарэлік. — А дапамога сталых вопытных пісьменнікаў нам проста неабходна.

Вострая размова на нарадзе зайшла аб Магілёўскім абласным тэатры, адным са старэйшых у рэспубліцы. Гэты тэатр з вялікім вопытам, вялікімі традыцыямі. Тут працуе шэраг цікавых, таленавітых майстроў сцэны—такіх, як С. Бульчык, М. Радзіёнаў, Н. Фядзяева, А. Яфрэменка... Аднак, як адзначыў дакладчык, у апошнія гады на рабоце тэатра адмоўна адбілася зніжэнне патрабаванняў да выбару рэпертуару, сур'ёзныя пралікі ў рабоце мастацкага савета, некваліфікаванае кіраўніцтва з боку былога галоўнага рэжысёра В. Валадарскага.

Рэжысёр тэатра А. Раеўскі прызнаў, што ў практыцы тэатра адчуваецца арыентацыя на «сярэднюю» п'есу, якая разлічана на непатрабавальнага гледача, захапленне п'есамі забаўляльнага характару, якія нясуць малую ідэйную нагрузку, тыпу «Гол у свае вароты», «Саламяны капялюшык» і інш.

У рэпертуары слаба прадстаўлена руская і савецкая класіка, беларуская драматургія, мала спектакляў, прысвечаных гераічнай працы савецкіх людзей, спектакляў аб рабочым класе і калгасным сялянстве. Калектыў тэатра абавязаўся перагледзець рэпертуар. Да XXIV з'езда КПСС тэатр намячае паставіць адзін з буйных твораў савецкай драматургіі. Магчыма, гэта будзе «Шторм» Ул. Біль-Белацаркоўскага або «Бальшавікі» М. Шатрова. Намечана кожны год рыхтаваць не менш 1—2 спектакляў для сельскіх працаўнікоў.

Мастакі вобласці за апошні год неаднаразова ўдзельнічалі ў абласных, рэспубліканскіх, усесаюзных выстаўках. Яны праводзяць значную работу па мастацкім афармленні прадпрыемстваў, устаноў, калгасаў, дапамагаюць афармляць клубы, бібліятэкі, чырвоныя куткі.

І ўсё ж ад сваіх мастакоў грамадскасць Магілёўшчыны чакае большага. У абласных і рэспубліканскіх выстаўках яшчэ мала ўдзельнічаюць магілёўскія мастакі.

— Мастакі не менш, чым архітэктары, павінны клапаціцца аб прыгажосці нашых дамоў, вуліц, плошчаў, аб агульным аблічы гарадоў і вёсак. А мы яшчэ недастаткова займаемся гэтым,—адзначыў у сваім выступленні ўпаўнаважаны Саюза мастакоў БССР У. Шпартаў.—У Магілёве толькі адзін будынак — кінатэатр «Кастрычнік»—афармлены ў стылі часу, у духу патрабаванняў манументальнай прапаганды. Даўно наспела неабходнасць прыцягваць да распрацоўкі забудоў нашых гарадоў мастакоў, каб працавалі яны ў цесным кантакце з архітэктарамі, праекціроўшчыкамі.

І яшчэ адну слушную думку выказаў У. Шпартаў. У апошнія гады на Магілёўшчыне, як і ва ўсёй рэспубліцы, узведзена шмат помнікаў, абеліскаў у гонар герояў Вялікай Айчыннай вайны. Гэта даніна памяці тым, хто аддаў сваё жыццё за наш сённяшні светлы дзень. Але некаторыя з

# НІБЫ СТРЭЛІСЯ ЗНОЎ У КУПАЛАВЫМ ДОМЕ...

Калісьці тут, ог на гэтым месцы непадалёк ад Свіслачы (бераг тады яшчэ не меў каменнае апраткі, быў балацяны, парослы аерам і трыснягом), стаяў у засені дрэў, над якімі ўзвышалася магутная таполя, несамавіты з выгляду драўляны дом. Нягледзячы на гэтую яго насамавітасць яго ведалі ў Мінску ўсе. А многія не проста ведалі. Драўляныя веснічкі, што вялі ў напоўнены водарам кветак двор, заўсёды былі адчынены для гасцей, якіх прымалі ў доме на дзіва гасцінна і сардэчна. Найчасцей гасцямі гэтымі былі пісьменнікі. Бо гаспадаром дома быў не хто іншы, як дзядзька Янка, Янка Купала, народны пясняр Беларусі.

Больш паўтара дзесятка гадоў пражыў паэт у тым драўляным доме. Пад яго ветлай страхой за гэтыя гады пабывалі многія пісьменнікі — паэты і празаікі, сталыя і зусім маладыя. І, можа быць, самым жаданым і дарагім госцем быў тут старэйшы сябра і паплечнік гаспадара, народны паэт Беларусі Якуб Колас. Не аднойчы і не адну гадзіну правялі яны тут разам, Янка Купала і Якуб Колас, бавячы час у сяброўскай гамонцы, за дружбацкай вячэрай ці ў зацятай гульні ў шахматы, да якіх абодва былі вялікія ахвотнікі.

Колькі яны чулі і бачылі, сцены гасціннага Купалавага дома!

Але яго не стала. Ен згарэў у першыя ж дні фашысцкай навалы. Згарэў разам з багацейшай, унікальнай паэтавай бібліятэкай, разам з яго рукапісамі, пісьмамі ад сяброў, разам з рэчамі. Пасля вайны на месцы дома засталося пажарышча, якое вартавала адзінокая, пакалечаная, самотная таполя. Не ўратавала яна Купалавага дома, не прыждала і таго, хто так любіў адпачываць у яе ценю.

І ўсё ж Купалаў дом у Мінску ёсць. Ен паўстаў зноў, як сімвал, як даніна ўсенароднай любві і пашаны да песняра, які адплаціў народу, чым моц яго змагла. Ен паўстаў там жа, на месцы былога пажарышча, паўстаў светлы, цагляны, двухпавярховы. Сам гаспадар ужо ніколі не адчыніць яго дзвярэй, не выйдзе на ганак стрэціць жаданага госця, але гэта ўсё ж — Купалаў дом. У доме — Літаратурны музей народнага паэта, дзе па крупінцы любоўна сабрана ўсё, што тычыцца яго вялікага жыцця і бессмяротнай спадчыны. Сцежку да Купалавага дома тораць сёння сотні і тысячы людзей з усіх канцоў нашай неабсяжнай краіны і свету.

У мінулую сераду, 28 кастрычніка, у Купалавым доме было асабліва шматлюдна. Тут адбыўся вялікі літаратурны вечар пад назвай «Сустрэчы з Купалам і Коласам». Але яго можна было б назваць і інакшай. Хоць бы сабе так, як назваў я гэты свой рэпартаж: «Нібы стрэліся зноў у Купалавым доме...»

Так, нібыта зноў, як і шмат гадоў назад, завітаў у госці да Янкі Купалы вечаровай кастрычніцкай парой Якуб Колас. Бо — у зале гучалі словы пра іх моцную чалавечую і творчую дружбу, гучалі радкі Купалы, напоўненыя шчырай любоўю і пашанай да Коласа, і радкі Коласа, прасякнутыя смуткам і невымерным болем з прычыны заўчаснай смерці адданага байца-песняра, гучалі іх вершы. Зрэшты, Максім Лужанін, выступаючы на гэтым вечары, так і сказаў: «Сённяшняя наша сустрэча тут, у Купалавым доме, — гэта як працяг сяброўства, цеснай творчай сувязі двух нашых найслаўных песняроў».

Вечар адкрыў дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы Уладзімір Юрэвіч.

— Першай вяршыняй, Эльбрусам беларускай літаратуры, — гаворыць ён, — назваў незабыўнага Янку Купалу выдатны украінскі паэт Паўло Тычына. Але была і другая вяршыня, якая ўзняла гэтак жа чыста і велічна,— Якуб Колас. Яны разам пракладвалі першыя барозны на нашай занядбанай літаратурнай ніве, разам закладвалі падмурак пад той магутны і цудоўны гмах, якім паўстала сёння перад светам родная беларуская літаратура. Ды іх аб'ядноўвала не толькі гэтае самаахвярнае служэнне агульнай справе. Нашых песняроў яднала яшчэ і шчырая ўзаемная прыязнасць, шматгадовая дружба і сяброўства. І таму наш сённяшні вечар у сценах Купалавага дома мы прысвячаем памяці іх абодвух.

Менавіта пра дружбу слаўных сыноў нашага народа гаварыў на вечары дырэктар Літаратурнага музея Якуба Коласа Даніла Міцкевіч:

— Пачалася гэтая дружба даўно, яшчэ на пачатку іх літаратурнай творчасці. Яшчэ да сваёй першай сустрэчы на хутары Смольня паблізу вёскі Мікалаеўшчына ўлетку 1912 года Колас і Купала адчулі ўзаемную прыхільнасць, душы іх рваліся насустрач адна адной.

Д. Міцкевіч гаварыў аб сумеснай працы песняроў у Інстытуце беларускай культуры ў першыя савецкія гады, прыгадваў частыя наведанні Купалам Коласавай хаты ў трыццатыя гады, кароткую сустрэчу ў Ляўках у вогненным чэрвені 1941, самотныя, негаваркія сустрэчы на падмаскоўнай станцыі Клязьма ў першыя, самыя цяжкія месяцы вайны.

— Пякучым болем азвалася ў сэрцы Коласа смерць Купалы, — гаворыць Даніла Канстанцінавіч. — Гэты боль і смутак гучыць у ягоных пісьмах таго часу, у журботных радках верша «Над магілаю друга»:

Падбіўся ў дарозе ты, дружа,  
І вочы пагаслі твае.  
У шуме жыццёвае сцюжы  
Байца-песняра нестае.



Ёсць што расказаць пра народных песняроў А. Слесарэнку, Я. Скрыгану, Я. Рамаsucceededоўскай, М. Лужаніну, Д. Міцкевічу і Ул. Юрэвічу.  
Фота Ул. КРУКА.

Успамінамі аб сустрэчах з Янкам Купалам і Якубам Коласам дзеліцца з прысутнымі заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі Максім Лужанін. Ён гаворыць:

— Мне пашчасціла не толькі часта бачыць і чуць нашых песняроў, але і ведаць іх блізка. Пра многія з гэтых сустрэч я расказаў у сваіх кнігах. Таму нагадаю толькі некалькі эпізодаў. Памятаю Янку Купалу ў пачатку ліпеня сорак першага, у сталіцы нашай Радзімы. Мне пазваніла Канстанцыя Буйла і сказала, што прыехаў Купала, спыніўся ў гасцініцы «Масква», што ён запрашае мяне да сябе. Я пабег у гасцініцу. Паэт толькі што вырваўся з палаючага Мінска, быў стомлены пакутнай дарогай, узрушаны да адчаю пабачаным і перажытым. Мы доўга гутарылі. І неўзабаве я адчуў, што Янка Купала пакрысе пазбаўляецца ад гэтага балючага ўтрапення. Вочы яго ажылі, засвіціліся, выдаючы, што да паэта вяртаецца яго ранейшая магутная спеўная сіла. Крыху пазней там жа, у Маскве, бачыў я іх абодвух разам — Янку Купалу і Якуба Коласа. Яны пісалі зварот да беларускага народа, у якім, заклікалі савецкіх людзей на змаганне з лютым ворагам. Колас прыехаў да Купалы з чарнавым накідам звароту. Купала кінуў вокам на лісткі паперы і хацеў ужо падпісаць іх, як Колас позіркам спыніў яго: маўляў, мо трэба падумаць разам. Купала ўздыхнуў і сказаў: «Я, дружа Колас, думаў над ім усю ноч, шукаў слоў, ад якіх запальваліся б не толькі сэрцы людскія, але і сама папера». І яны селі побач і разам сталі думаць над кожным словам.

Шмат гаварыў М. Лужанін і пра тое, як Купала і Колас ставіліся да літаратурнай моладзі.

— Янка Купала, — падкрэсліў ён,— гэта пачатак маёй пісьменніцкай біяграфіі. Калі б не ён, дык мая першая кніжачка наўрад ці пабачыла б свет. Паэт меў дома альбом, у які ўклейваў упадабаныя ім вершы пачаткоўцаў. І я ледзь не згарэў ад сораму, калі, будучы ў яго на кватэры (паэт жыў тады яшчэ на Правіянцкай вуліцы), убачыў гэты ягоны гросбух, а ў ім і пару маіх вершаваных спроб. А пасля вайны ўсё, што выходзіла з-пад майго пяра, чытаў Якуб Колас. І я з удзячнасцю магу сказаць, што гэта быў надзіва чулы, сардэчны, хоць і прынцыповы настаўнік. Скажу больш. Сталася так, што і я з 1948 года чытаў у першых рэдакцыях усё, над чым працаваў народны паэт. І трэба сказаць, што Колас быў надзвычай уважлівы і цярплівы да заўваг, часта іх улічваў, папраўляючы тыя ці іншыя мясціны.

З вялікай увагай слухалі прысутныя (пераважна моладзь — студэнты універсітэта, педагагічнага інстытута і слухачы вышэйшай партыйнай школы) успаміны пра Янку Купалу Янкі Скрыгана.

— Янку Купалу,—гаварыў пісьменнік, — я лічу найпершым сваім настаўнікам. Любіў яго з дзяцінства. Прызнаюся, што і сам пачынаў з вершаў. Але сталася так, што першай

гэтых помнікаў з мастацкага боку не адпавядаюць сучасным патрабаванням.

Прыгажосць, эстэтычная асалода... Гэтыя паняцці даўно перасталі быць манаполіяй «выбраных». Вельмі цікавым было выступленне В. Касценка, сакратара Шклоўскага райкома КПБ, якая расказала пра сацыялагічныя даследаванні, што праводзіліся сёлета ў шклоўскіх калгасах імя Фрунзе, імя Кірава і імя Андрэева. Даследаванні яскрава адлюстравалі вобраз сучаснага савецкага селяніна—адукаванага, узброенага новай тэхнікай, чалавека з высокімі духоўнымі патрабаваннямі. Яму ўжо мала жыць у добрым доме, мець матацыкл, тэлевізар. Яму патрэбен сучасны клуб, жывыя сустрэчы з артыстамі, пісьменнікамі, мастакамі. Сельскі жыхар, асабліва малады, вельмі жыва рэагуе на кожную падробку, замену сапраўднага мастацтва. І калі аднойчы абласны драмтэатр прыехаў у раён са зробленым на жывую нітку спектаклем, са старымі, пашарпанымі дэкарацыямі — гледачы былі пакрыўджаны.

Так, сапраўдная літаратура, сапраўднае мастацтва, непадробная прыгажосць, адным словам, усё лепшае, чаго дамаглася наша сацыялістычная культура, павінна стаць, павінна быць патрэбай, надзённым здабыткам кожнага працаўніка.

Уся краіна, увесь савецкі народ рыхтуецца дастойна сустрэць XXIV з'езд КПСС. Разам з усімі ў агульным страі ідзе да з'езда і творчая інтэлігенцыя. Наперадзе ў яе новыя здабыткі, новыя перамогі.

Удзельнікі нарады прынялі разгорнутую пастанову.

На нарадзе з прамовай выступіў сакратар ЦК КПБ С. Пілатовіч.

---

сустрэчы з паэтам я не памятаю. Ці то час быў такі, ці то вінавата была наша маладосць, але мы на пачатку, у дваццатыя гады, надта ж захапляліся «новымі плынямі» і зусім па-хлапечы лезлі «у рожкі са старымі», хоць кожны з нас цягнуўся душою да Купалы і Коласа. Бліжэй пазнаёміўся з дзядзькам Янкам пазней, калі перайшоў на працу ў рэдакцыю газеты «Літаратура і мастацтва». Ён часта заходзіў у рэдакцыю. Часцей проста так — пасядзець, пагаварыць, папытацца, як жывем. І тут жа каля яго збіраўся гурт. «То, можа, пойдзем, хлопцы, па куфлю піва вып'ем, чаго вы тут будзеце шчыраваць у куродыме», — скажа, падымаючыся. І мы ішлі. Ён ідзе папераздзе, на руцэ кіёк трымае, а мы цугам за ім. Увогуле, я не памятаю, каб Купала быў дзе-небудзь адзін. Заўсёды з ім хто-небудзь ёсць, найперш — моладзь. Мне б хацелася асабліва падкрэсліць, што дзядзька Янка быў надзвычай сціплым чалавекам, уважлівым і чулым да іншых. А як ён умеў страчаць, частаваць гасцей! Пэўна, усе, хто хоць раз пабываў у яго доме, ніколі не забудзе гасціннасці і шчодрасці гаспадара і гаспадыні.

Галоўны захавальнік фондаў Літаратурнага музея Янкі Купалы Ядзвіга Раманоўская гаварыла на вечары аб той сардэчнай дружбе, якая звязвала доўгія гады не толькі Купалу і Коласа, але і іх сем'і, прачытала некалькі ўрыўкаў з пісем Якуба Коласа і Уладзіславы Францаўны, якія красамоўна пацвярджалі цеплыню і сардэчнасць іх узаемаадносін.

— У музеях народных песняроў сабрана шмат матэрыялаў пра іх жыццё і творчасць, — гаворыць у заключэнне Я. Раманоўская. — Тым не менш я звяртаюся да вас, дарагія таварышы, а таксама да тэлегледачоў (частка вечара трансліравалася па тэлебачанні, — М. Г.) з вялікай просьбай. Калі ў каго-небудзь з вас або ў вашых бацькоў, сваякоў, знаёмых ёсць матэрыялы пра Купалу і Коласа, — дасылайце іх у музеі. Кожны з дасланых дакументаў ці матэрыялаў не толькі папоўніць музейны арсенал, але і дапаможа нам больш поўна і дакладны дамаляваць воблікі слаўных сыноў беларускай зямлі.

А паміж гэтымі выступленнямі гучалі вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа. Іх чыталі вучаніцы мінскіх школ Таня Далідовіч і Тамара Сінькевіч, артыст Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Барыс Бруснікаў, заслужаны дзеяч культуры БССР, навуковы супрацоўнік Літаратурнага музея Якуба Коласа Аляксей Слесарэнка...

Доўга ў той вечар свяціліся вокны Купалавага дома.

**Мікола ГІЛЬ.**

---

ДА ДЗЕН КУЛЬТУРЫ ФІНЛЯНДЫІ Ў МІНСКУ

# СУОМІ— БЕЛАРУСЬ

*СТАРОНКІ З ГІСТОРЫІ КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЕЙ*

Фінляндыя... Краіна шумлівых хвояў і ялін, лясных азёр і парожыстых быстрых рэк. Краіна дзе жыве старанны і працавіты народ. Першы, хто пазнаёміў беларусаў з яе жыццём, са строгай красой краю, быў Янка Купала. Фінляндыю ён наведаў у чэрвені 1910 года разам з прафесарам Браніславам Эпімах-Шыпілам і фальклярыстам Антонам Грыневічам. На Купалу гэта краіна і яе народ зрабілі незабыўнае ўражанне. У дарожных нататках «З Фінляндыі», якія былі надрукаваны на старонках газеты «Наша ніва», ён расказаў аб тым, як фінскі народ дбае аб культурным выглядзе сваіх гарадоў і вёсак, беражліва адносіцца да гістарычных помнікаў, імкнецца да асветы, лепшага жыцця.

З цеплынёй Купала ўспамінаў і пра маладое пакаленне фінаў. «Часта недалёка ад палатна дарогі, — пісаў ён, — бачылі мы чысценька апранутых маленькіх дзетак, каторыя, стоячы ў асочнай траве, махалі нам у дагонку белымі кветкамі, і як бы казалі на сваёй непанятнай мове: «Як маецеся, пілігрымы з далёкага і невядомага нам краю!..»

На фінскай зямлі Купалу зачараваў і вадаспад Іматра. Відовішча, якое адкрылася перад ім, паланіла паэта. «Апісаць Іматру, — прызнаваўся ён,—гэту велічыню і разгон бушуючае вады трудна. Трэба яе бачыць сваімі вачыма, каб пераканацца, як тут усясільная прырода паказала сваю моц, выкапаўшы ў каменнай гары канаву-грамадзіну і кінуўшы па ёй расшалелыя хвалі ракі Вуоксы... Забываешся на свет, на людзей, на жыццё, на долю, а ўсё глядзіш і слухаеш, слухаеш і глядзіш... Да позняй ночы мы тут прасядзелі, а як падышла пара падумаць аб спачынку ды павароце дамоў, то так не хацелася расставацца, як бы тут нешта сваё дарагое кідаў...»

Сваё прабыванне ля вадаспада Купала ўвекавечыў таксама і ў цудоўных радках верша «Над Іматрай», у якім пранікнёна апеў рамантычны куточак у «Фіншчыне дзіўнай».

Цікавасць да Фінляндыі сярод беларускай інтэлігенцыі пасля паездкі Купалы, Эпімах-Шыпілы і Грыневіча стала з кожным годам расці і пашырацца. Так, напрыклад, некалькі сваіх летніх вакацый у Фінляндыі праводзіць Браніслаў Тарашкевіч, тагачасны студэнт Пецярбургскага універсітэта, які пазней адыграў выдатную ролю ў развіцці нашай навукі і культуры. У 1914 годзе Фінляндыю наведала Цётка (Алаіза Пашкевіч) і свае ўражанні апісала ў дарожных нататках «Успаміны з паездкі ў Фінляндыю», якія затым апублікавала ў беларускім часопісе «Лучынка». У нататках яна шмат увагі ўдзяліла апісанню прыроды краіны, гістарычнага мінулага і сучаснага жыцця фінаў. З прыязнасцю паэтэса гаварыла аб фінскім народзе, які любіць і шануе свой край, «застаўся верным прадзедаўскай мове і прадзедаўскім звычаям». Паэтэсу захапіла і багатая вусная народная творчасць фінаў. «Бяздонным жаралом,—адзначала яна,—паэзія біла з песняў, з казак, з легенд; жалезная сіла і любоў да роднага краю з народных твораў вызірала».

Багацце і самабытнасць фінскага фальклору, творчасць паэтаў і пісьменнікаў, прасякнутая гуманізмам і рамантыкай, захаплялі таксама і Максіма Багдановіча. Да нас дайшоў, на вялікі жаль, толькі адзін урывак яго перакладу з паэмы Іягана Людвіга Рунэберга «Паво з Сарыярві». Але ёсць звесткі, што ён перакладаў і нацыянальны эпас фінаў «Калевалу».

Грамадскасць Фінляндыі, у сваю чаргу, праяўляе жывую цікавасць да жыцця беларусаў. Многа зрабілі для знаёмства насельніцтва краіны з гісторыяй і культурай нашага народа фінскія газеты «Хельсінгін саномат», «Суомен сосіалідэмокраці», «Ціедокантойя» і іншыя. У 20-х гадах на сваіх старонках яны змясцілі шмат інфармацый, нарысаў і артыкулаў, у якіх расказвалася аб вялікіх пераўтварэннях, што адбываюцца ў маладой беларускай савецкай рэспубліцы ў галіне народнай гаспадаркі, навукі, асветы, літаратуры і мастацтва.

Плённа пачалі развівацца беларуска-фінскія культурныя сувязі пасля другой сусветнай вайны. На экранах кінатэатраў і клубаў беларускіх гарадоў і вёсак часта дэманструюцца фінскія фільмы, якія знаёмяць шырокія колы нашай грамадскасці з жыццём працалюбівага і таленавітага народа Суомі, яго мастацтвам, фальклорнымі і літаратурнымі помнікамі. У пяцідзесятыя гады, напрыклад, з вялікім поспехам дэманстраваўся кінафільм «Лавійса» па п'есе Юхані Тэрвапяя.

Глыбокае ўражанне пакінула ў гледачоў мастацкая кінакарціна савецка-фінскай вытворчасці пад назвай «Сампо», якая перанесла іх у далёкае мінулае «краіны тысячы азёр», пазнаёміла з цудоўным расказам народнага казачніка Вяйнямёйнена. Усхвалявала іх паэтычная, рамантычна-прыўзнятая кінакарціна «Малочніца Хілья». Спадабалася нашым гледачам вясёлая і дасціпная кінакамедыя «Ашуканыя ашуканцы», а таксама такія мастацкія фільмы, як «Малады мельнік», «Прыгоды маладой настаўніцы», «Калі цвіце чаромха», «Двор маленькага Пеетэры».

Азнаямленню беларускай грамадскасці з кінамастацтвам фінскага народа плённа садзейнічалі прыезды ў нашу рэспубліку яго дзеячоў культуры.

Для ўдзелу ў Дэкадзе фільмаў Фінляндыі, якая праводзілася ў 1964 годзе ў Беларусі, у Мінск прыязджала дэлегацыя работнікаў фінскага кінамастацтва на чале са старшынёй Палаты кінематаграфіі і кінапраката кампазітарам Маўно Мякеля. У складзе дэлегацыі была выканаўца галоўнай ролі ў кінафільме «Раскажыце гэта ёй» таленавітая скрыпачка сімфанічнага аркестра фінскага радыё Хэлена Лехтэля, якая паспяхова сумяшчае сваю асноўную прафесію з працай у кіно. Разам з імі прыязджаў і шырока вядомы ў Фінляндыі тэнар Мауно Куусісто, чыё майстэрства спевака і акцёра знайшло яркае выражэнне ў фільме «Калі цвіце чаромха». У мінскім кінатэатры «Перамога» фінскія госці сустрэліся з нашымі гледачамі, расказалі ім аб шляхах развіцця кінамастацтва Фінляндыі, аб сваім удзеле ў пастаноўцы асобных фільмаў, адказалі на шматлікія пытанні прысутных.

Фінскія гледачы ў сваю чаргу пазнаёміліся з многімі ўдалымі працамі беларускіх кінематаграфістаў. На экранах гарадскіх і вясковых кінатэатраў іх краіны паспяхова дэманстраваліся нашы фільмы «Паўлінка», «Дзяўчынка шукае бацьку», «Чырвонае лісце» і шэраг іншых.

Усё часцей у нашу рэспубліку на гастролі прыязджаюць прадстаўнікі фінскага тэатральнага мастацтва. Аматарам музыкі добра запамяталася выступленне ў пачатку шасцідзесятых гадоў у зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі фінскага дырыжора Тауна Ханікайнена, пад кіраўніцтвам якога сімфанічны аркестр філармоніі даў некалькі канцэртаў. Значную частку яго канцэртных праграм склалі творы фінскіх кампазітараў, з якімі нашы слухачы знаёміліся ўпершыню. Глыбока народным характарам, прастатой, меладычнасцю зачаравалі іх сімфанічная паэма «Фінляндыя» і Другая сімфонія Яна Сібеліуса, у якіх выдатны кампазітар увасобіў вобразы любімай радзімы, яе прыроду і людзей. З вялікай цікавасцю яны праслухалі сюіту «Калевала» сучаснага фінскага кампазітара Кламі.

З песняй свайго народа пазнаёміў нашых слухачоў папулярны фінскі спявак Харас Хурста.

Сведчаннем паспяховага развіцця культурных сувязей паміж Фінляндыяй і нашай рэспублікай з'явіўся ўдзел у спектаклях Беларускага опернага тэатра фінскіх артыстаў — саліста оперы Вэйко Цюрвэйнена і балерыны Эльзы Сільвестэрсон.

Прыемнае ўражанне ў нашай грамадскасці засталося і ад выстаўкі твораў фінскай мастачкі Эсі Рэнвал, якая была наладжана ў 1964 годзе ў Беларускім мастацкім музеі. Наведвальнікі выстаўкі высока ацэньвалі творчасць гэтай прагрэсіўнай мастачкі, адзначалі, што працы Эсі Рэнвал гавораць аб яе пранікнёнай і пяшчотнай любові да чалавека, уменні бачыць лепшае і прыгожае ў ім, што яна сваім рэалістычным мастацтвам уносіць пэўны ўклад у барацьбу працоўных Фінляндыі за мір, узаемаразуменне і дружбу паміж народамі.

Грамадскасць Беларусі заўсёды праяўляла цікавасць і да фінскай літаратуры. У 1958 годзе ў нас быў выдадзены нацыянальны эпас «Калевала», які пераклаў на беларускую мову Міхась Машара. У апошнія гады на старонках нашых перыядычных выданняў усё часцей сталі з'яўляцца пераклады з фінскай літаратуры. Добрую ініцыятыву ў гэтым напрамку ў свой час праявіла рэдакцыя часопіса «Бярозка», якая змясціла цікавыя матэрыялы аб жыцці і вучобе дзяцей Фінляндыі, а таксама пераклады твораў фінскіх пісьменнікаў Маці Рану і Армаса Эйкія. Сёлета часопіс «Полымя» парадаваў сваіх чытачоў перакладамі апавяданняў Юхані Ахо, Хэла Вуаліёкі, Марці Ларні, Пенці Лахці, Мігеля Анхеля Астурыяса.

У мінулым годзе з 12 па 19 кастрычніка ў Фінляндыі праводзіўся Тыдзень беларускай культуры. Для ўдзелу ў ім да фінскіх сяброў выязджала дэлегацыя дзеячоў культуры нашай рэспублікі, танцавальная група Дзяржаўнага народнага хору БССР, эстрадны ансамбль «Тоніка», салісты Беларускага опернага тэатра і філармоніі, а таксама турыстычная група, у складзе якой былі вучоныя, работнікі культуры, мастацтва, народнай асветы, медыцыны, якія выступалі перад насельніцтвам Фінляндыі з расказамі аб Савецкай Беларусі.

Да Тыдня беларускай культуры Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі накіравала ў Фінляндыю выстаўкі жывапісу і графікі, вырабаў народных промыслаў, сувеніраў, тэматычныя фотавыстаўкі і выстаўку мастацкай фатаграфіі, даведачна-інфармацыйныя матэрыялы, грамафонныя пласцінкі і магнітафонныя запісы беларускай музыкі, мастацкія і хранікальна-дакументальныя фільмы, спецыяльныя радыё- і тэлеперадачы.

У часе правядзення Тыдня беларускай культуры ў Фінляндыі з нашым мастацтвам змаглі пазнаёміцца жыхары гарадоў Ювяскюля, Мікелі, Яніскокі, Поры, Раўма і Хельсінак. Канцэртныя групы, як адзначала прэса, выступалі не толькі ў канцэртных залах, але і ў клубах, многіх кавярнях. І ўсюды беларускіх артыстаў чакаў поўны захаплення прыём.

Значную цікавасць у фінскай грамадскасці выклікала выстаўка жывапісу, графікі і беларускага народнага мастацтва, якая была адкрыта ў музеі выяўленчага мастацтва горада Ювяскюля. Цёплы водгук знайшла і выстаўка рукадзелля і прыкладнога мастацтва. Аб ёй, напрыклад, газета «Хельсінгін саномат» пісала: «Багатыя і яркія фарбы тэкстыльных вырабаў. Яны радуюць вочы ўзорамі на тканінах, вышыўкамі з нацыянальным арнаментам. Сувенірныя вырабы народных умельцаў Беларусі, якія прадстаўлены на выстаўцы, паланяюць уяўленне наведвальнікаў».

Тыдзень беларускай культуры супаў са святкаваннем 25-годдзя Таварыства «Фінляндыя — Савецкі Саюз», самай масавай грамадскай арганізацыі краіны, і выліўся ў трыумф фінляндска-савецкай дружбы.

Сёлета, з 9 па 14 лістапада, у Мінску адбудуцца Дні культуры Фінляндыі. Для ўдзелу ў іх чакаецца прыезд дэлегацыі Таварыства «Фінляндыя — Савецкі Саюз» на чале з намеснікам прэм'ер-міністра Фінляндыі, міністрам адукацыі, членам сацыял-дэмакратычнай партыі Мэры Калавайнен. Чакаецца прыезд эстраднага аркестра фінскага радыё пад кіраўніцтвам Раймо Хенрыксон, групы мастацкай гімнастыкі (рабочыя спартыўнага саюза г. Ювяскюле), балетнай групы пад кіраўніцтвам Маргарэто фон Бахр, салістаў Ауне Ратуа Пялі і Маці Тулойсела, віяланчэліста прафесара Арто Норас, музыкантаў Маці Вайніо (арганіст) і Арыа Кунгас (баяністка), артыстаў Маргот Мусало, Аарэ Ярвінен і іншых — усяго 70 чалавек.

# СПАДАРОЖНАГА ВЕТРУ!

## ТЭАТР МУЗЫЧНАЙ КАМЕДЫІ Ў МІНСКУ РЫХТУЕЦЦА ДА АДКРЫЦЦЯ

За адзін вечар і адну раніцу, якія я правяла ў зале, фае і калідорах тэатра музычнай камедыі, які арганізоўваецца ў Мінску, мне давялося пагаварыць з многімі артыстамі, тэхнічнымі работнікамі, рэжысёрамі.

Я не выбірала сваіх субяседнікаў, а гутарыла з тымі, хто быў побач. І ўсе яны сцвярджалі адно: «Тэатру быць!»

— Тэатру быць! Паверце майму вопыту, майму воку, майму вуху, — гаворыць старшы машыніст сцэны Мікалай Варанцоў.

Я невыпадкова спасылаюся на яго думку. Мікалай Мікалаевіч — чалавек, як кажуць, на





Перапынак.

тэатры не новы. Яму даводзілася працаваць у многіх калектывах, шмат бачыць.

— Працаваць цікава, калі ты сам кладзеш першы, запаветны камень у пабудову, — гэта захапляе. Таму я адмовіўся ад большага акладу ў філармоніі, успомніў аб пачыне Валянціны Гаганавай і перайшоў сюды, — жартуе габаіст Уладзімір Мардас. — Аркестр у нас малады. Сярэдні ўзрост музыкантаў, бадай, 25—26 гадоў. І амаль усе — выхаванцы нашай кансерваторыі. Ёсць сярод аркестрантаў і масквічы, і музыканты з іншых гарадоў. Думаю, сыграемся!

Сяджу ў зале на рэпетыцыі, гляджу на артыстаў хору, балета, салістаў, якія запоўнілі амаль што ўсю сцэну, і думаю над словамі Валодзі: сыграемся... Як цяжка, неверагодна цяжка арганізаваць спектакль! Дырыжор, хормайстар, балетмайстар, рэжысёр — усе ў «справе».

Гранічнае напружанне. Загучаў аркестр.

Уступіў хор.

Не, нешта не так. Хормайстар Нэла Сяргееўна Андросава перапыняе рэпетыцыю. Рэжысёр Аляксандр Сяргеевіч Барсягян бяжыць на сцэну. Адлегласці, якія ён «набягае» на рэпетыцыі, бадай, вымяраюцца кіламетрамі.

— Стоп! Стоп! Ціха, не размаўляць! — крычыць ён, хоць на сцэне і ў зале ідэальная цішыня. Яго можна зразумець: яму хочацца звышзасяроджанасці ў такія напружаныя хвіліны.

А вось ужо і балет з'явіўся. Малады яшчэ балет. Учарашнія выпускнікі Мінскага харэаграфічнага вучылішча. Артысты зусім няўпэўнена адчуваюць сябе на сцэне: хвалююцца і робяць не так, як трэба, і, канечне ж, гарачацца, і хочуць выглядаць дарослымі, сталымі. Ой, як многа вучыцца ім яшчэ давядзецца! Ой, як многа!..

Дасведчаны тэатрал можа ўсміхнуцца: маўляў, не яны першыя, не яны апошнія ставяць аперэту, няма чаго панікаваць.

Так, гэта правільна. Але адна справа — ставіць спектакль ва ўжо сыграным калектыве, дзе вядомы характар кожнага акцёра, яго схільнасці, дзе нават па ледзь прыкметным руху здагадваюцца, які ў артыста настрой, дзе па тым, як сёння трубач «вывеў» першую ноту, можна дакладна сказаць, як ён сябе адчувае, і г. д. і да т. п. А тут, калі нават не ўсе імёны запомніліся, калі знаёмства толькі-толькі наладжваецца, — тут, канечне, цяжка.

Да адкрыцця тэатра засталося менш як два месяцы. Рэпеціруецца аперэта І. Дунаеўскага «Вольны вецер». Ужо закончана работа над кальманаўскай «Фіялкай Манмартра». На чарзе — аперэта Ю. Семянякі «Спявае «Жаваранак».

«Нет капитала, ну так что же, раз вы друг другу по душе», — спявае хор.

Я ўладкавалася ў куточку сцэны, дзе стаіць раяль. Адсюль добра чуваць і відаць таксама, толькі ракурс незвычайны — збоку.

Тут я не адна. Віктар Бажэнаў, які, як я даведалася потым, іграе ў гэтым спектаклі гаспадара карчмы, таксама прыладзіўся ля раяля. Зараз ён у палоне таго, што адбываецца на сцэне. Асабліва яго ўвагу прыцягвае выканаўца ролі Янгі — Уладзімір Тытэнка. Ён нават спявае разам з ім. Спявае і выразна жэстыкулюе. Напэўна, ведае, што адсюль на сцэне і ў зале яго не пачуюць.

Віктар у гэтым годзе



Рэпетыцыя «Вольнага ветру». Філіп — заслужаны артыст БССР Віктар Шэўкалюк. Фама — Юры Лазоўскі.

закончыў Дзяржаўны інстытут тэатральнага мастацтва ў Маскве. Яго запрасілі ў Мінск у новы тэатр, і ён з радасцю прыехаў, хоць раней у Беларусі не бываў. А вось другі выканаўца ролі гаспадара карчмы — Якаў Яўна — мінчанін. Тут закончыў 12-ю школу, музычнае вучылішча, потым быў інстытут Гнесіных, і вось ён зноў дома. Якаў вельмі рады, што ўсё так здорава атрымалася.

«Что поет вольный народ? Песню о вольном ветре...»

Музыка І. Дунаеўскага і праз гады прыцягвае і хвалюе. Ды і змест п'есы — барацьба народа за сваё вызваленне, за свабоду — як заўсёды, актуальны.

— Яшчэ некалькі гадоў таму ў рэпертуары музычных тэатраў асноўнае месца займала так званая «неавенская» традыцыйная аперэта, — гаворыць Аляксандр Сяргеевіч Барсягян. — Але зараз яна саступае месца сучаснай аперэце, нараджэнне якой звязана з імёнамі такіх кампазітараў, як Ц. Хрэннікаў, В. Мурадэлі, А. Пятроў. Для яе характэрна расшырэнне тэматыкі, яна спрабуе ставіць і вырашаць сур'ёзныя актуальныя праблемы, шырока выкарыстоўваючы дасягненні кіно і драматычнага тэатра. Вялікую папулярнасць набылі і мюзіклы, напрыклад, такія, як «Мая цудоўная лэдзі», «Чалавек з Ламанча», фанвізінскі «Недаростак» і іншыя.

Пакуль што цяжка сказаць, па якім шляху пойдзе наш мінскі тэатр. Гэта залежыць ад многага: і які рэжысёр узначаліць тэатр, і як канчаткова складзецца трупа, і ад гледачоў, бо, як гаварыў У. Меерхольд, «тэатр будуецца не толькі тымі, хто працуе на сцэне, хай нават таленавіта, тэатр ствараецца яшчэ і воляй глядзельнай залы».

Застаецца толькі цярпліва чакаць. І спадзявацца. Спадзявацца, што будзе цікавы, яркі, тэатр, не падобны ні на адзін з ужо існуючых. Са сваім своеасаблівым рэпертуарам. Для тэатра ўжо зараз пішуць свае новыя творы кампазітары Я. Глебаў, Г. Вагнер, Д. Смольскі, яны звярнуліся і да «некранутых» аперэтай твораў — «Тарас на Парнасе», «Пінская шляхта», «Несцерка»...

— Мы, канечне, марым аб яркай, цікавай рэжысуры, — гаворыць заслужаная артыстка РСФСР Ніна Равінская. — Са свайго вопыту магу сказаць, што без сапраўднага, творча мыслячага, маладога (справа, канечне, не ва ўзросце) рэжысёра-мастака тэатр асуджаны на нікчэмнае існаванне. Хочацца, каб да нас хадзіла не публіка, якая захапляецца легкаважкім жанрам, а сур'ёзны глядач са сваімі пытаннямі і трывогамі...

Рэпетыцыя працягваецца. Сёння Стэлу спявае Алена Тытэнка. А другая Стэла — Наталля Гайда — зараз у зале. У перапынку яна мне расказала, што блізкія сябры не раілі ёй ісці ў аперэту. Асабліва муж — саліст оперы. Ды яна і сама працавала ў оперы. «Опера — гэта сур'ёзна, гэта сапраўднае мастацтва», — пераконвалі яе. А Наталля не паслухалася.

— У мяне такі характар: я і спяваць люблю, і танцаваць, і драматургічнае мастацтва мне па душы, — гаворыць Наташа. — Не, аперэта — гэта сур'ёзна, гэта мой лёс...

Быццам згаварыліся артысты. Многія паўтаралі мне гэтую фразу: «Аперэта — мой лёс». Дарэчы, нічога дзіўнага. У тэатр прыйшлі працаваць маладыя і ўлюбёныя.



У. Тытэнка — выканаўца ролі Янгі чакае выхаду. Машыніст сцэны Мікалай Варанцоў (сядзіць) таксама заняты ў спектаклі.

Фота Ю. Іванова.

Пакуль хор яшчэ і яшчэ раз задае пытанне: «Стэла, што з табой?», я падымаюся ў кабінет — маленькі, чысценькі кабінет, які пахне свежай фарбай. Так, я забылася сказаць, што тэатр будзе часова працаваць у памяшканні клуба імя Дзяржынскага. Зразумела, «часовая прапіска» — далёка не лепшы варыянт для тэатра. Памяшканне, дзе выступаць такой трупе, нязручнае, а рэпетыцыйная зала наогул цесная. Зрэшты, балету наогул няма месца, і для яго даводзіцца здымаць памяшканне ў Зялёным Лузе. Але і гэта яшчэ не ўсё. У розных месцах горада размешчаны і цэхі. Так, сталярны, напрыклад, прытуліла 26-я школа (дзякуй богу, школы цяпер будуюць прасторныя); пашывачны цэх наогул не могуць укамплектаваць, таму што вельмі нізкія стаўкі, амаль што ў два разы ніжэй, чым у камбінаце БТА, а работа адказная, трэба адзець усіх — ад жабракоў да караля. Не жартачкі...

Я крышачку адхілілася ад асноўнай размовы, таму што ў кабінеце (я зайшла туды, каб паглядзець макет дэкарацый «Вольнага ветру», якія зрабіў мастак А. Аруцюнян) да мяне падышоў Уладзімір Лаўрэнцевіч Кучар — загадчык пастановачнай часткі і расказаў пра гэта. Пастановачная частка ў тэатры — гэта той махавік, які прыводзіць у рух дзесяткі маленькіх шасцяронак...

Цяжкавата на першых парах, але ў пачатку заўсёды цяжка, і тут ніхто не скардзіцца, усе вераць, што пройдзе некалькі гадоў — і вырасце ў Мінску дом, дзівосны дом, незвычайны дом. Гэта і будзе тэатр аперэты.



Уважліва сочыць за рэпетыцыяй заслужаны артыст КаССР Уладзімір Ажарэльеў.

Я гляджу на дэкарацыі — гэта палуба карабля, на якой разгорнуцца падзеі.

Я гляджу на дэкарацыі, чую галасы выканаўцаў, якія далятаюць знізу, бачу будучы спектакль...

Спадарожнага ветру!

Ірына ПІСЬМЕННАЯ.



У бясконцым руху...

Янка БРЫЛЬ



# ДАЖДЖЛІВЫ, СОНЕЧНЫ ЖНІВЕНЬ

ТРЭЦІ дзень цвіце мой адзіны жоўты гарлачык паміж талерак-лістоў. Трэці дзень, то седзячы, то лежачы, гляджу на бела-блакітныя бочачкі паплаўкоў. Часцей за ўсё—праз рэдкі частакол абгрызенага каровамі аеру.

Уранні туманец шпарка ішоў за плынню ракі, стараючыся не адстаць. Дзень праяўляўся без чыстага сонца, мяккім святлом. Яшчэ не абсохла раса, а ўжо з сітнягу, у якім я стаяў на мыску, пачалі стартаваць стракозы. Пад несціханы булькат ручаіны, што ўпадае ў Шчару. Бацька бусел ці, можа, маці бусліха з чорнадзюбымі падлеткамі спаважна хадзілі сабе паблізу, не вельмі каб зважаючы на рыбака. Сойка дзерлася на тым баку, у лістоце. Певень у недалёкай вёсцы прастадушна рабіў сваё—курарэкаў раз-поразу, нібы адзін, той самы ўсё, а не на змену з іншымі.

Добра, спакойна на душы. І цяпер, адвячоркам, калі збіраецца памаленьку на дождж, пагруквае над заходнім даляглядам. І ўранні, калі туманец спяшаўся за плынню. І ўчора, гэтай парой, калі мы, пакінуўшы, нарэшце, упарта нерухомыя паплаўкі, сышліся воддаль ад сваіх завоінак і весела плавалі ў вадзе ды ў сонцы ласкавага вечара.

Большую частку жыцця чалавек праводзіць у адзіноце. Чаму некаторыя людзі баяцца, не любяць яе?..

І яшчэ адно хоча ў блакнот:

Разлука з блізкімі, любімымі, разлука назаўсёды і туга па іх—гэта таксама адчуванне абавязку. Перад галоўным у жыцці. А разам з тым—і абавязак перад тымі, што нас пакінулі. Паколькі я не ў зямлі, а пакуль што наверсе, у шчасці свядомых дзён і хвілін.

Добра вось так пісаць—калі папера і душа ў траве.

●

Раніца сёння, пасля начнога дажджу, лагодна свежая, па-святочнаму, хоць і не свята, ціхая, пад шэрай павалокай хмар, якія ці то аддалі ўжо ўсё, што меліся аддаць, ці то яшчэ збіраюцца падсеяць.

Старшыня прыехаў па мяне, як дамаўляліся, у шэсць.

— Эх, дарагі мой, каб вы толькі бачылі—тры ласі на дарозе! Тры асілкі! Якія прыгожыя!..

Ён захапляецца нягучна, з асцярогай,—дом адпачынку калгасны, ды ў ім цяпер адпачывае інтэлігенцыя з дзецьмі. Ён паўтарае сваё захапленне і за рулём «газіка», які з памяркоўным гудзеннем нясе нас па лясной, з асаджаным пылам, дарозе.

— Вось тут стаялі! І я перад імі стаяў!

Радасць яго перадаецца мне. Яшчэ і зайздросна на дадатак, і прыкра, што вось жа мне зноў не пашанцавала. Але і прыкрасць, і зайздрасць—не безнадзейныя, нібы мне жыць яшчэ ды жыць...

Мы ведаем адзін аднаго нядаўна, але як быццам і нядрэнна. Часамі мне здаецца, што ў гутарцы са мной, пісьменнікам, ён крышку пазіруе, паварочваецца лепшым бокам. Тады, для раўнавагі, я дакараю самога сябе пытаннем: «А ты што, мала пазіруеш? І перад ім...» Але часцей мне думаецца, што мы са старшынёй забываемся пра такое, больш міжвольнае, чым свядомае пазіраванне і проста жывем сабе побач, здаволеныя нашымі нячастымі сустрэчамі, ён—ахвотна знаёмячы мяне з тым, чым ён жыве, а я—ахвотна знаёмячыся з гэтым маляўнічым кутом, з новымі людзьмі.

Сёе-тое я ўжо тут ведаю.

З заатэхнікам Люсяй я, напрыклад, сустракаўся летась, тады яшчэ чуў пра яе. І цяпер, калі мы пасля некалькіх кіламетраў мокрага лесу выязджаем на палявую дарогу і неўзабаве спыняемся каля крайняга доміка яшчэ соннай вёскі, я пазнаю гэты домік і загадзя, вачыма памяці, бачу яго маладую гаспадыню.

«Газік» наш прыпыніўся каля плота, за якім над мокрымі градамі сям-там тырчаць вялыя ад макрэчы сланечнікі і вішні з рэшткамі нядаўняй вераб'інай раскошы — апошнімі недакляванымі ягадамі.

Люся выходзіць з доміка ці то на стрыманы покліч нашай машыны, ці то заўважыўшы яе цераз акно яшчэ да сігналу. У накінутай сцёганцы, у белай хусціне, з прыветлівай усмешкай. Вясёлая і працавітая. Гэтага мала. Такія ўжо бывалі. Таксама, як жыллё — ужо не хата з лучынай, а спраўны, пафарбаваны вохрай домік пад шыферным дахам, з тэлеантэнай над ім, з электрычнасцю і газам на службе ў гаспадыні,—таксама і гаспадынька—не проста ласкавая, спраўная маладзіца, а загадчыца фермы і студэнтка-завочніца.

Пакуль яны вядуць сваю будзённую, дзелавую гутарку, я, мне здаецца, непрыкметна любуюся Люсяй і ўспамінаю дзве старонкі яе біяграфіі. Выпускны вечар у дзесяцігодцы, «блакітны вальс», калі бойкая выпускніца асмелілася і вывела на круг самога старшыню, такога культурнага, толькі што з раёна. А пасля гутаркі з ім задумалася дзяўчо, ці не застацца ёй і сапраўды ў сваёй вёсцы цялятніцай. І гора маладзенькай цялятніцы ўспомнілася. Як адна з яе падласак па звычаю лясных кароў уцякла ў гушчар—цяліцца. Трое сутак шукала яе Люся. Спачатку проста хадзіла па лесе, клікала ды плакала, а потым здагадалася і пачала чакаць карову каля вадапою, лясное рачулкі. І дачакалася. Ужо з цяляткам.

Я непрыкметна, здаецца мне, назіраю за тым, якімі добрымі вачыма гэты пажылы, бывалы мужчына, цяжка паранены франтавік глядзіць на маладую, здаровую, вясёлую амаль красуню, і ўспамінаю многіх яго памочніц, у іншых вёсках калгаса. Даяркі, заатэхнікі, учотчыцы, аграномы...

— Мяне часамі,—смяяўся неяк старшыня,—называюць бабскім угоднікам. І сябры, і начальства. Многа, бачыце, у мяне дзяўчат ды маладзіц на самых адказных участках. І праўда—больш, чым мужчын. І кожная, скажу вам, на сваім месцы.

Зноў едзем. Зноў любуюся няяркай, дзікаватай, не надта шчодрай на хлеб красою палёў. Узгоркаватых, з частымі пералескамі, з кустамі ялаўцу і валунамі на абочынах дарогі.

Насустрач нам, па палявой дарозе, ідзе... Неўзабаве становіцца ясна—ідзе малады чалавек. Ледзь не падлетак яшчэ. Без шапкі, светлавалосы. Пакуль мы з ім параўняліся, старшыня паспеў сказаць, што гэта адзін з трох сыноў каваля, старэйшы, дапрызыўнік. Усе тры хлопцы—механізатары. Талковыя. Вось жа работы ў полі сёння няма, свята, так сказаць, паняволі, а ён ідзе. Вядома ж, да свайго камбайна.

Мы спыніліся. Яны здароўкаюцца, як дарослыя, юнец і пажылы, і пачынаюць гутарку. Зноў дзелавую. І я зноў заўважаю ў позірку старшыні, як і з Люсяй было, стрыманую бацькоўскую закаханасць. І сапраўды—прыемны хлапчына, гэты камбайнер. Ладная, відаць, сям'я ў таго не знаёмага мне каваля. Меншы яшчэ не дарос да камбайнера, ездзіць са старэйшым братам, вось гэтым, за памочніка. Пра гэта я даведаўся цяпер, з гутаркі, якую слухаю. І неяк цёпла ад нямоцнага жадання спытацца ў дзецюка ды пачуць у адказ, што той, які малы яшчэ, вядома ж, спіць сабе цяпер, законна папаўняючы сваё штодзённае недасыпанне...

Мы снедаем у хаце старшыні, удвух. За вялікім акном, у садзе і ў агародзе дождж. Свята да вечара. Шчыра кажучы, нам не пашкодзіла б узяць па маленькай, аднак мы паедзем далей, гаспадар за рулём, а госць адзін не прывык, дый на душы ў яго добра і так, сваім ходам, без чаркі.

Я слухаю гаспадароў расказ пра тое, як на пасяджэнні праўлення калгаса нядаўна разглядалася адна вельмі ж ужо непрыгожая справа. Сын адмовіўся дагледзець сваю адзінокую, стрэнькую маці, якая жыве асобна.

— І мы сказалі яму: ты не варты таго, каб называцца сынам гэтай жанчыны. Яна ж столькі папрацавала на сваім вяку, столькі пагаравала. Два сыны яе, два браты гэтага булавы, загінулі на вайне. Гэта штоколькі слёз? «Не плачце, мама,—сказалі мы ёй на праўленні.—Мы вашу старасць дагледзім. Мы ў састаянні вам...»

Мне ўжо не здаецца, што я любуюся субяседнікам непрыкметна для яго,—я заўважаю ў вачах яго слёзы і думаю, гледзячы ў гэтыя крыху стомленыя, крыху журботныя вочы:

«Харошы ты, патрэбны, дружа мой, чалавек!..»

●

Позняя ноч. Цішыня. Старонкі добрай кнігі.

А за акном майго пакоя на другім паверсе, у саснова-дубовай цемры раптам ізноў, як часта паўтараецца ўдзень, заклекаталі на гняздзе буслы.

Нібы воплескі пасля маўклівага слухання.

Сваё жыццё, свая радасць.

●

Узыходзіць сонца, а на ўвесь хмарны захад—вясёлка. З-за яе толькі варта ўставаць у чатыры, брысці сюды тры кіламетры, цярпліва, часта беспаспяхова сядзець над паплаўкамі.

Толькі што адзудзелі камары, супакоіўся пад аерным берагам бабёр, а ўжо над альховым кустам, за якім я, прытаіўшыся, сяджу, загаманіла звонкая пчолка.

Нядаўна над ціхай ракой праляцеў—важны, як паліцэйскі чын—каршун.

Дождж трохі падзубаў алавяную роўнядзь вады, і вось вясёлка, што нядаўна знікла, зноў выядрылася, на ўсю сваю красу. І па небе, і, левым краем, у вадзе.

Дождж ізноў зашастаў па лісці, парабацініўся навокал паплаўкоў. Відаць, збярэцца-такі, і добры. Раз-поразу чуваць грудное, стрыманае грукатанне грому. Захад зусім перамог—неба абложана там грунтоўна, сіняя цемра налазіць сюды, грыміць ужо над самай галавой...

Густа зашастала на тым беразе па алешніку. Пайшло па Шчары плюскатам, кружочкамі ды пухірамі. Гэта—дождж!

...Так і прагнаў нас дахаты. Апошняе пра яго, папярэдні абзац, запісваю ўжо на стале.

●

Якім бы пустым, нецікавым ні быў гэты чалавек, я не хачу, не магу забыцца, што ён—той адзіны таварыш, з якім мы зімовым вечарам сорак першага года радасна абняліся на адзіноце, пачуўшы пра разгром фашыстаў пад Масквой.

●

Учора была навальніца. З громам, ад якога расколвалася неба. З ветрам, ад якога стагналі на ўзлессі дубы і лівень насіла, як завіруха носіць снег. З градам, што і траву, і пясок, усыпаныя шышкамі, пакрыў ледзяной шурпатасцю.

Ад ракі мы ледзь паспелі дабегчы да эстраднай ракавіны, дзе прасядзелі нягоду. Вярнуліся адтуль,—у сандалетах на босую нагу, у безрукаваўках,—як тыя японцы ў нечакана ды небывала суровыя замаразкі, што нядаўна былі напалі на іх.

Цяпер зноў сонечны поўдзень.

І добрая вестка пра тое, што град прайшоў амаль зусім не над полем, дзе яшчэ грэчка ды авёс.

●

На ўскраіне лясное вёсачкі, крыху адсунуўшы далей сасоннік, бялецца сценамі ферма. Пабудаваная нядаўна, «па апошняму слову тэхнікі». У доўгім, светлым кароўніку хоць і не душна, але пах стаіць густы. Для нас, хто ад зямлі, гэта не лічыцца смуродам. «Пачухай мяне за рагамі»,—моўчкі просіцца сытая і сумнаватая на прывязі карова. Над пылам дарогі, прыбітым пасля дажджу, сырадой у цыстэрне. Пах мокрае зямлі і пах замкнутага ў метале малака... Праўда—толькі ўяўны, міжволі спалучаны з успамінам пра маміну даёнку.

Дзед Міронавіч. З-за яго і запісваю гэта, бо ўжо не адзін такі кароўнік здаваўся мне звычайным дзівам у новым побыце заходнебеларускай вёскі. Дзед—у капелюшы, з сахаром у руцэ. А барада ажно з сівага надзелень, і раскошная, як у прарока. Перад вайной, зарабіўшы многа долараў у Канадзе,—легенда кажа: ажно трыста тысяч,—ён прывёз іх сюды, у сваю лясную бядоту. А тут іх узялі ды ўкралі. І ён памяшаўся. Ціха, няшкодна.

Цяпер дзед задаволены, што грошы яго не згінулі марна, што гэта за іх пабудавана ўся тая прыгажосць — цагляны кароўнік, з механізаванай падачай кармоў, з электрадойкаю, з чырвоным кутком для даярак у белых халаціках...

— А старшыня сабе многа не ўзяў,—па-змоўніцку шаптаў мне дзед, калі мы на момант засталіся адны.—Толькі жане на плаццячка. Шаўковае. Праўда, толькі адно, дый то скромненькае. Але яму, скажу вам, не жалка. Бо чалавек ён харошы—поўнасцю за рабочы народ!..

●

Калі мы падвечар, нашай малой ды дружнай кампаніяй, пайшлі прайсціся лесам і молада выпрабоўвалі рэха, я зноў успомніў верасень сорак першага года, мае ўцёкі з палону, першы начлег у разгубленай беларускай вёсцы. У небагатай хаце, дзе сушылася духмяная процьма баравікоў, дзе зусім незнаёмая цётка, маці вялікай сям'і, раненька напякла для аднаго мяне аладак, напаіла мяне сырадоем, потым сама зноў пайшла па грыбы, а я—далей на свой усход.

Хутка і доўга ішоў імглістым, духмяным лесам і, нібы блазнюк, радасна перагукваўся з нябачнымі грыбнікамі.

Рэха маё незабыўнае...

●

Барвовы маладзічок над паўднёвым захадам. Палоска адхонага берагу, а ў рацэ мядзяная дарожка ад месяца, як быццам яго падпорка, праткнутая праз гэты адхоны бераг.



Мал. А. САПЕТКІ.

# З АДЧУВАННЕМ СУЧАСНАСЦІ

ЭСТЭТЫКА і тэорыя... Мусіць, не дужа ўважлівымі былі да іх беларускія літаратуразнаўства і крытыка. І наўрад ці я памылюся, калі скажу, што менавіта з гэтай прычыны нават самыя лепшыя нашы мастацкія здабыткі ўсё яшчэ не прачытаны і не даследаваны так, як яны таго заслугоўваюць. А, між тым, настаў час, калі наша літаратуразнаўства павінна тэарэтычна асэнсаваць мастацкія знаходкі сённяшняга дня.

Такой, шмат у чым удалай спробай, мне ўяўляецца кніжка «Сучасная беларуская паэзія», аўтары якой — У. Гіламёдаў, М. Барсток, М. Арочка, І. Ралько — засяродзілі ўвагу на асноўных жанрах і відах сучаснай паэзіі: лірыцы, паэме, байцы, сатырычным вершы і эпіграме.

Толькі спаўна выкарыстаўшы дасягненні сучаснай эстэтыкі і тэорыі літаратуры, можна навукова азначыць і пранікнуць у спецыфіку паэзіі, даследаваць мастацкую культуру пісьма паэта, непаўторнасць і хараство яго эмацыянальна - вобразнага мыслення. Менавіта эстэтыка-тэарэтычныя крытэрыі далі магчымасць У. Гіламёдаву, аўтару раздзела пра лірыку, абгрунтаваць свае доказы, заглыбіцца ў сутнасць мастацкага светаадчування, адслаіць эстэтычна-актыўнае слова ад падробкі. Даследчык імкнецца вырашыць нялёгкае пытанне: абгледзець і пазнаць дыялектыку ходу думкі і эмоцыі ў сучасным лірычным творы. І гэта не выпадкова, бо ў творчасці нашых лепшых паэтаў думка і эмоцыя арганічна паяднаны, яны знаходзяцца ў дыялектычнай узаемасувязі, эмоцыя падсвечвае думку, думка актывізуе эмоцыю.

У. Гіламёдаў, безумоўна, мае рацыю, калі зазначае, што «беларуская паэзія больш, чым якая іншая, мае вострую патрэбу ў «выроўніванні» інтэлектуальнага і эмацыянальнага вопыту». Аднак ён памыляецца, калі гаворыць, што эмацыянальны вопыт, «маючы пад сабой даўнія (перш за ўсе фальклорныя) традыцыі, часта не па праве бярэ верх над інтэлектуальнасцю ў яе сучасным разуменні, асабліва ў творчасці паэтаў, якія празмерна захапляюцца «ружовымі золакамі», «яснавокімі мальвамі», «сінявокімі зорамі» і г. д., стылізуючы свае вершы пад фальклор». Наўрад ці трэба гаварыць аб нейкім праве верха эмацыянальнага ці інтэлектуальнага. Уся, відаць, справа, як кажа і сам У. Гіламёдаў, у «выроўніванні», у гармоніі аднаго і другога.

Не так гэта лёгка выявіць і навукова даследаваць — уплыў фальклору на сучасную лірыку. Мастацкі ўзровень пісьма ў наш час — высокі, сама культура стварэння пераканальнага лірычнага характару ўскладнілася, інструментоўка верша набыла якасна новыя формы. У такіх умовах, і гэта зусім натуральна, абнавіўся і сам спосаб выкарыстання традыцыйна-фальклорнай паэтыкі. Яна ўжо не ляжыць на паверхні, яе не заўсёды ўбачыш няўзброеным вокам. Гэтага часам не ўлічваюць некаторыя літаратуразнаўцы і часта жывасілам заціскаюць трапяткую душу верша ў свае халодныя і мулкія сістэмы.

Вось чаму хораша і ў поўным сэнсе палемічна завострана чытаюцца радкі У. Гіламёдава: «Крыніца творчых поспехаў сучаснай беларускай паэзіі, залог сапраўднай народнасці не ў механічнай блізкасці да фальклору з яго «ідэальнай» паэтыкай. Галоўнае заключаецца ў тым, каб, не адмяжоўваючыся ад фальклору, ісці ў напрамку творчага наватарства, якое, безумоўна, выкарыстоўвае найбольш канструктыўныя фальклорныя традыцыі. Такое мастацкае наватарства павінна ствараць новы ў параўнанні з фальклорнай паэтыкай вобразны лад, тып мовы, паэтычны сінтаксіс».

Ёсць творы сапраўднай мастацкасці і шырокага грамадска-філасофскага гучання. Ёсць у нас шчодрая на радасць і маладую рамантыку лірыка А. Куляшова. Ёсць асацыятыўна гаваркі і дальнабойны верш М. Танка. Сённяшняга чытача прыемна здзіўляе насычаны аналітычнай думкай лірызм П. Панчанкі. Мудрасцю і сапраўдным чалавеказнаўствам вылучаецца паэзія А. Пысіна. Нас хвалюе шчырасць і філасофская заглыбленасць шмат якіх твораў пісьменнікаў «філалагічнага пакалення». І хораша ўсведамляць, што кожны з гэтых паэтаў умее па-свойму бачыць і выяўляць, даказваць і паказваць. Таму для літаратуразнаўцы важна засяродзіць увагу на своеасаблівасці эстэтыкі паэта, на яго ўменні адкрываць, маляваць словам, ствараць адчувальныя «на дотык» мастацкія вобразы.

У. Гіламёдаў якраз і засяроджвае ўвагу на асаблівасці і характары лірычнага абагульнення, на шматзначнасці і найбольш істотных адзнаках лірычнага вобраза. Даследчык падкрэслівае, што кожны элемент, кожны мікравобраз — гэта толькі асколачак мастацкага адзінства, своеасаблівы кадр сінтэтычнага цэласнага — лірычнага характару. Мікрасвет сучаснага лірычнага верша У. Гіламёдаў разглядае ў яго шматлікіх сувязях, непасрэдна ў тых вузлавых момантах, калі дэталі, усе прасцейшыя адзінкі твора адна другую даглядаюць і падсвечваюць, калі яны ўзаемаадлюстроўваюцца і дзякуючы гэтаму працуюць на цэласную ідэйна-эстэтычную задуму.

Кніжка «Сучасная беларуская паэзія» цікавая і тым сваім раздзелам (аўтар — М. Барсток), дзе разглядаецца паэма — жанр, які мае ў нас сваю даўнюю гісторыю станаўлення і развіцця. І хоць беларуская паэма ўжо часткова даследавана М. Лазаруком, усё ж такі перад М. Барсток стаяла задача выключнай важнасці: трэба было не толькі вызначыць этапныя моманты ў развіцці гэтага жанру, але клапатліва і дбайна разабрацца ў шматлікіх формах і структурных варыянтах нашай сучаснай паэмы. Усё гэта ўскладняецца яшчэ і тым, што навейшыя формы і тыпы паэматворчасці амаль не закраналіся беларускім літаратуразнаўствам (калі не прыпомніць, бадай, толькі невялікі, але ёмісты па думцы артыкул А. Лойкі «Паэма шукае», змешчаны ў 1968 годзе ў «Полымі»).

Даследаванне М. Барсток вызначаецца лагічнасцю, навуковай паслядоўнасцю ў аналізе багатага матэрыялу беларускай паэматворчасці.

Зусім невыпадкова мы знаходзім у кніжцы «Сучасная беларуская паэзія» і раздзел пра сатыру (аўтар М. Арочка). Сапраўды, ці многа над ёй папрацавалі нашы літаратуразнаўцы і крытыкі? Не. Ёсць толькі асобныя «жанравыя» подступы да распрацоўкі гэтай тэмы.

На першы погляд, можна ўпікнуць даследчыка ў залішняй метафарызацыі сваіх думак і асобных вывадаў. Але калі добра ўдумацца ў асноўныя палажэнні працы М. Арочкі, дык можна пераканацца, што ў самой культуры яго даследавання метафара і навукова-акадэмічны сілагізм адзін аднаму памагаюць, актыўна фармуюць і даносяць да чытача тэарэтычную задуму аўтара.

Інтэнсіўны метафарызм сучаснага верша, культуру і своеасаблівасць мастацкага мыслення можна зразумець толькі тады, калі дэталёва вывучыць саму эвалюцыю, псіхалогію і структуру вобразнай асацыяцыі. Менавіта на гэтых пытаннях засяродзіў увагу І. Ралько — аўтар раздзела пра асацыятыўную вобразнасць. І тут не шкодзіць напомніць, што такія і падобныя пытанні амаль не падымаліся беларускім літаратуразнаўствам. І. Ралько, такім чынам, даследуе мастацкую вартасць і непаўторна-арыгінальны характар нашай сучаснай паэзіі з таго боку, з якога яна пакуль што нікім не даследавалася.

Асаблівую цікавасць уяўляюць тыя старонкі раздзела, дзе даследчык гаворыць пра класіфікацыю асацыятыўных мікраструктур. Выкарыстоўваючы ўдала падабраны фактычны матэрыял, І. Ралько правільна вызначае вытокі асацыятыўнага верша. Нельга не пагадзіцца з вывадам даследчыка: «Узровень асацыятыўнага паэтычнага мыслення ў сучаснай беларускай паэзіі таму і высокі, што паэты нашы, скарыстоўваючы багаты вопыт савецкай асацыятыўнай паэзіі і паэзіі Захаду, абапіраюцца ў сваіх пошуках на надзвычай трывалы нацыянальны грунт. Не дзіўна таму, што і асацыятыўнасць іх мыслення, скажам М. Танка ці Р. Барадуліна, імсгна беларуская, нацыянальная па сваім характары».

Сапраўдная паэзія адкрывае свае таямніцы толькі тым, хто яе любіць, хто востра адчувае асацыятыўна-гаваркую душу мастацкага слова. Аўтары «Сучаснай беларускай паэзіі» хораша і пагаспадарску разабраліся ў галоўных асаблівасцях сучаснага верша, пераканальна і навукова грунтоўна азначылі асноўныя тэндэнцыі развіцця сучаснай беларускай паэзіі. На кніжнай паліцы чытача з'явілася яшчэ адна цікавая кніжка.

**М. ЯНКОЎСКІ,**
кандыдат філалагічных навук.

«Сучасная беларуская паэзія», Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1970.

# НА ЖЫЦЦЁВЫХ ПУЦЯВІНАХ

Чытаючы зборнік апавяданняў Міхася Парахневіча «Грыбны дождж», заўважаеш журналісцкае (у добрым сэнсе гэтага слова) паходжанне многіх з іх. Садоўнік, паромшчык, старшыня калгаса на нейкі час становяцца спадарожнікамі аўтара. У гаворцы з імі пісьменнік (а ён умее зрабіць так, што і мы як бы «падключаемся» да яе) раскрывае рысы характару чалавека, багацце яго душы. Характэрнымі ў гэтым сэнсе з'яўляюцца такія апавяданні, як «На пароме», «Незагойная рана», «Вячэрні сеанс» і іншыя.

Дзед Хвядос («На пароме») з вышыні сваіх гадоў добра бачыць, якое жыццё цяпер і было раней. Ён стаптаў не адзін дзесятак лапцей, прасаваў жыватом далёкія землі пад лаянку царскіх афіцэраў, апякаў рукі аб плуг, адчуў на сваёй спіне халодны дотык кулацкага абрэза. Усведамленне сваёй чалавечай годнасці, пачуццё гаспадара зямлі не пакідае яго і ў старасці. Да ўсяго яму ёсць справа.

Чалавек дзеяння, зацікаўлены ў агульнай справе, руплівы гаспадар — любімы герой пісьменніка.

Запамінаецца апавяданне «Па дарозе на Раванічы». Праз суровыя выпрабаванні ідуць насустрач адзін аднаму Міця і Тоня. А ці сустрэнуцца? Пра гэта аўтар дае магчымасць паразважаць чытачу.

Адным з улюбёных матываў празаіка з'яўляецца матыў дабра і зла. Дабро заўсёды перамагае, выступае ўвасабленнем шчасця.

Лось і чалавек («Сустрэча на паляне») напіліся вады з адной крыніцы. Толькі лось збочыў з дарогі, як героя апавядання Сцяпана Сагайдака працяла думка: «Трэба ж, га? Гэта ж як вол...» Думка не давала яму спакою, калі ён круціў педалі веласіпеда, спяшаючыся па стрэльбу. Невядома, што здарылася б, калі б Сагайдак не сустрэў вясковага настаўніка з купкай хлопчыкаў і дзяўчынак, якія прывялі на волю падгадаванае імі ласяня. Гэта было як вядро халоднай вады на галаву Сцяпана: ён бачыў, як і яго дачушка цягнулася пагладзіць ляснога прыгажуна, падсоўвала яму жмутак травы. Не мог пасля гэтага Сцяпан узяць у рукі стрэльбу.

Праўда, некаторыя апавяданні тая ж «газетнасць» псуе. Гэта адчуваецца ў сюжэтнай збеднеласці твору, надуманасці сітуацыі, у схематызме характараў.

Усё ж— лепшымі сваімі старонкамі — кніга М. Парахневіча «Грыбны дождж» прываблівае чытача роздумам аб сапраўдных і ўяўных чалавечых вартасцях, месцы чалавека ў жыцці, яго адносінах да грамадства.

**А. СЛУКА.**

Міхась Парахневіч. «Грыбны дождж». Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1969.

*ГОСЦІ МІНСКА*



Другі раз у Савецкі Саюз прыязджае на гастролі папулярны эстрадны аркестр радыё і тэлебачання горада Заграба (Югаславія). Мастацкі кіраўнік аркестра — кампазітар Мілен Прахаска. Некалькі дзён калектыў выступаў на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

НА ЗДЫМКАХ—госці з Югаславіі на сцэне Беларускай філармоніі; салістка Эрвіна Штэлцэль.

Фота Ул. КРУКА.

# КАБ ГРЫМЕЛІ ТРУБЫ, СПЯВАЛІ ВІЯЛАНЧЭЛІ...

*19 чэрвеня 1970 года ў «Літаратуры і мастацтве» быў надрукаваны артыкул А. Гантмана «Тут развінаюцца крылы». У ім ішла гаворка аб рабоце Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі — яе дасягненнях і праліках, клопатах і праблемах. Размову аб пытаннях музычнага выхавання моладзі ў нашай рэспубліцы працягвае артыкул, які прапануецца вашай увазе.*

Нядаўна мне давялося прысутнічаць на IX Маскоўскай канферэнцыі ISME (Міжнароднага таварыства па музычным выхаванні), якая была прысвечана актуальнай тэме: «Роля музыкі ў жыцці дзяцей, юнацтва, моладзі». Адно з самых моцных уражанняў засталося ў мяне ад выступлення аб'яднанага ансамбля маленькіх скрыпачоў— вучняў музычных школ Эстоніі. Дзеці літаральна пакарылі слухачоў высокай культурай выканання.

Поспех гэтага калектыву — не выпадковасць. Развіваючы традыцыі харавога і аркестравага мастацтваў, эстонскія музыканты абапіраюцца на трывалы фундамент—выдатна пастаўленае музычна-эстэтычнае выхаванне ў дзіцячых садах, школах і культурна-асветных установах. Слухаючы юных скрыпачоў, я асабліва востра адчуў, як неабходна неадкладна вырашыць набалелыя пытанні музычнага выхавання ў нашай рэспубліцы. А іх, на жаль, нямала.

Займаючыся з вучнямі дзіцячых музычных школ, мы павінны памятаць, што толькі 10—15 працэнтаў з іх паступаюць у музычныя вучылішчы і кансерваторыі. А астатнія? Яны таксама павінны ўносіць свой уклад у развіццё музычнай культуры — як кіраўнікі ці ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці, як кваліфікаваныя прапагандысты музычнага мастацтва. Нарэшце, як сказаў на канферэнцыі ISME Д. Кабалеўскі, вельмі важнай задачай музычнага выхавання з'яўляецца «ўздзеянне праз музыку на ўвесь духоўны свет вучняў, перш за ўсё на іх мараль».

І тут многае залежыць ад педагогаў. Настаўнік— мастак, настаўнік — артыст, мысліцель заўсёды авалодае ўвагай дзяцей, павядзе іх за сабой. Каб навучыць дзяцей акампаніраваць, чытаць з ліста, падбіраць па слыху, транспаніраваць, спяваць, педагог павінен быць, у першую чаргу, сам улюбёны ў сваю справу. А нас яшчэ іншы раз заядае і кансерватызм, і інертнасць. Напрыклад, няма патрэбы гаварыць, што вучэбны матэрыял штогод павінен узбагачацца новымі сучаснымі творамі савецкіх і зарубежных кампазітараў. Здаецца, гэта элементарна, але новыя творы ўваходзяць у школьны рэпертуар «са скрыпам». Чаму? Ды таму, што асваенне сучаснага матэрыялу заўсёды патрабуе пошукаў і ў методыцы выкладання. Некалькі гадоў таму назад вядомы беларускі кампазітар П. Падкавыраў напісаў спецыяльна для музычных школ фартэпіянны канцэрт, вельмі цікавы і да таго ж адзіны дасюль у беларускай педагагічнай літаратуры. Ці ў многіх школах ён выконваецца, ці многія настаўнікі па-сапраўднаму з ім знаёмы?

У апошнія гады педагогі Савецкага Саюза і многіх іншых краін надаюць асабліва важнае значэнне самастойнай творчасці дзяцей. «У працэсе дзіцячага развіцця, — гаварыў яшчэ ў 20-х гадах адзін з вядомых нашых музыкантаў-асветнікаў Б. Яворскі,—усе формы праяўлення творчай ініцыятывы вельмі каштоўныя. Але асабліва дарагая музычная творчасць. Бо каштоўнасць яе не ў самой прадукцыі, а ў працэсе авалодання музычнай мовай». У Ленінградзе, напрыклад, яшчэ два гады назад выпушчаны зборнік «Дзеці—дзецям», дзе змешчаны дваццаць п'ес і песень, напісаных вучнямі музычных школ ва ўзросце ад 7 да 13 гадоў.

Сур'ёзныя заняткі па кампазіцыі ў апошнія гады вядуцца і ў многіх школах Беларусі. У нашай школе, напрыклад, некалькі гадоў працаваў гурток, які вёў кампазітар Р. Буцвілоўскі. Вучні настолькі захапіліся самастойнай творчасцю, што ў хуткім часе змаглі даць некалькі канцэртаў, цалкам складзеных з іх уласных твораў. Адзін з канцэртаў адбыўся ў зале Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Год назад у нашай рэспубліцы быў праведзены першы конкурс на лепшы дзіцячы музычны твор, у якім прымала ўдзел большасць музычных школ і вучылішчаў.

Хацелася б, каб гэтая добрая ініцыятыва не згасала, каб ва ўсіх без выключэння музычных школах педагогі зацікавілі дзяцей самастойнай творчасцю.

Вялікую карысць, мне здаецца, маглі б прынесці музыказнаўчыя гурткі ў школах, дзе вучням даручаліся б невялікія даклады пра музыку і музыкантаў, падрыхтоўка тэматычных канцэртаў ці вечароў гуказапісу. «Дакладчыкі» развівалі б свае «аратарскія» здольнасці, а слухачы ўзбагачаліся б інтэлектуальна. Не гаворачы ўжо аб тым, што ў дзяцей выпрацоўваецца пачуццё адказнасці, уменне працаваць з кнігай, падбіраць факты, лагічна мысліць.

Безумоўна, педагогі зацікаўлены ў тым, каб у школы прыходзілі таленавітыя, здольныя дзеці. А калі так, то чаму б нам не праслухоўваць час ад часу выхаванцаў старэйшых груп дзіцячых садоў і вучняў малодшых класаў агульнаадукацыйных школ? Добра было б стварыць пры музычных школах аднагадовыя ці двухгадовыя падрыхтоўчыя групы. У двухгадовыя групы можна было б прымаць дзяцей пяці-шасцігадовага ўзросту і першы год працаваць з імі ў плане агульнага музычнага развіцця (спевы, рытміка і г. д.), а другі— вучыць іграць.

Кантакт з дзіцячымі садамі і школамі дае магчымасць вырашыць яшчэ адну важную задачу. У рэспубліцы да гэтага часу існуе вялікая дыспрапорцыя паміж навучэнцамі розных спецыяльнасцей. Музычныя вучылішчы і кансерваторыя сутыкаюцца з цяжкасцямі пры наборы на аддзяленні духавых і струнных інструментаў. У гэтым годзе, напрыклад, на аддзяленні струнных інструментаў вучылішчаў планавалася прыняць 101 чалавека, а заяў было пададзена толькі 68 (у прыватнасці, усяго 12 заяў ад віяланчэлістаў на 21 месца і 3 ад альтыстаў на 12 месц). У Цэнтральнай дзіцячай музычнай школе Мінска, дзе займаецца 746 чалавек, сёлета наогул не было набору на духавое аддзяленне, а ўсё гэта аддзяленне складаецца зараз з... чатырох вучняў. Нават у адзіным у рэспубліцы Дзяржаўным сімфанічным аркестры не хапае струннікаў і духавікоў.

Натуральна, што пры такім становішчы цяжка ўсур'ёз весці гутарку аб падрыхтоўцы высокакваліфікаваных салістаў, аркестрантаў, педагогаў. Атрымліваецца замкнёнае кола: кансерваторыю не задавальняе ўзровень падрыхтоўкі ў вучылішчах, вучылішчы — работа музычных школ, школы ж не маюць педагогаў патрэбнай кваліфікацыі, а іх павінна рыхтаваць кансерваторыя.

Разарваць гэтае кола неабходна, і пачынаць трэба з гэтых самых падрыхтоўчых груп, аб якіх ішла гутарка вышэй. Назіраючы за пяці—шасцігадовым дзіцем, педагог можа вызначыць яго схільнасць да таго ці іншага інструмента і рэкамендаваць яго на адпаведнае аддзяленне.

Але тут узнікае яшчэ адно пытанне. Як школы могуць палепшыць работу сваіх духавых і струнных аддзяленняў, калі практычна немагчыма набыць патрэбныя інструменты — духавыя, ударныя, домры, балалайкі? Асабліва ж цяжкае становішча склалася з віяланчэлямі. Віяланчэляў самых неабходных для школ памераў ($^1/_4$ і $^2/_4$) наогул не бывае ў магазінах і іншых гандлёвых арганізацыях. І колькі аб гэтым ні гаварылася кіраўнікам Галоўнага ўпраўлення рамонтна-вытворчых майстэрняў і забеспячэння нашага міністэрства культуры, у прыватнасці, начальніку ўпраўлення С. Габрыэляну, там па-ранейшаму набываюць віяланчэлі $^3/_4$ і поўныя — прыгодныя толькі для студэнтаў.

І, нарэшце, аб зніжэнні платы за навучанне на струнна-смычковых, струнна-народных і духавых інструментах. У многіх рэспубліках яна значна ніжэйшая, чым у Беларусі, а ў Закаўказзі дзеці навучаюцца бясплатна.

Наспела неабходнасць вельмі сур'ёзнай размовы. Імкліва бяжыць час. Узнікаюць усё новыя і новыя пытанні, якія патрабуюць неадкладных рашэнняў.

Вельмі ад многага залежыць фарміраванне новага чалавека, і музычнае выхаванне адыгрывае не апошнюю ролю. Бо, як гаварыла Н. Крупская, мастацтва з'яўляецца сродкам пазнання іншых, сродкам больш цеснага зблiжэння з калектывам, дапамагае чалавеку расці разам з іншымі і ісці з імі да зусім новага, поўнага глыбокіх і значных перажыванняў жыцця.

**В. ВАРАТНІКОЎ,**
заслужаны дзеяч культуры БССР,
дырэктар музычнай школы № 2
г. Мінска.

*ПРАБЛЕМЫ, МЕРКАВАННІ, РОЗДУМ*

# ЖЫВАЯ ВАДА БЕЛАРУСІ

Не пералічыш усіх казак, дзе гаворыцца пра жывую ваду. Яна ад усіх хвароб, ды што там хвароб—мёртвых уваскрашае!

Кажуць, у кожнай казкі ёсць рэальны пачатак. Мо і казка пра жывую ваду ўзнікла ў мясцінах, дзе білі з зямлі мінеральныя крыніцы?

Ці многа іх у нас, на Беларусі? Наогул, многа.

Зараз у рэспубліцы ёсць чатыры санаторыі, дзе выкарыстоўваюцца лекавыя воды («Нарач», «Лётцы», «Крыніца», імя Леніна). Заканчваецца будаўніцтва новага беларускага санаторыя ў раёне Рагачова, дзе таксама знойдзены лекавыя мінеральныя крыніцы. Выкарыстоўваюць «свае» крыніцы Мінская абласная бальніца, Наваполацкая гарадская бальніца, Мінскі завод безалкагольных напіткаў.

Па сваім складзе і ўласцівасцях беларуская мінеральная вада не горшая за вядомыя лекавыя воды курортаў Трускавец, Друскінінкай, Бірштонас і інш.

Выкарыстанне мінеральных вод для лекавых мэт ідзе сваімі карэннямі ў глыбокую старажытнасць. Некалі ім прыпісвалася самае фантастычнае паходжанне.

У выніку вывучэння структуры зямной кары, аб'ёму і складу воднай абалонкі зямлі з'явілася некалькі гіпотэз паходжання мінеральнай вады. Найбольш распаўсюджанай з іх з'яўляецца тэорыя інфільтрацыйнага паходжання, г. зн. пранікнення атмасферных вод у горныя пароды і вышчалачвання апошніх. Некаторыя вучоныя трымаюцца думкі, што мінеральныя воды маглі ўтварыцца за кошт выдзялення пароў з магмы, якія потым кандэнсаваліся ў больш халодным асяроддзі і па шчылінах і разломах узнімаліся да паверхні зямлі. Нарэшце, яшчэ адна тэорыя —тэорыя выкапнёва-пахаваных вод, якая ўстанаўлівае прамую сувязь паміж акіянамі, морамі і падземнымі водамі.

Эксплуатацыя любога радовішча можа быць пачата толькі пасля падліку запасаў карыснага выкапня і наступнага зацвярджэння іх у Дзяржаўнай камісіі па запасах. Аднак у рэспубліцы гэтае правіла часам ігнаруюць і эксплуатацыю мінеральных вод вядуць без зацвярджэння іх запасаў (выключэнне складаюць радовішчы мінеральнай вады ў раёнах возера Нарач і Рагачова). Канечне, можна дапусціць, што на сёння каштоўнай лекавай вады ў нетрах рэспублікі многа. А што будзе заўтра? Мы ж не варвары, павінны падумаць і аб нашчадках. Прырода шчодра ўзнагароджвае нас сваімі багаццямі, але навошта так абыякава адносіцца да яе дароў?

Вось прыклад. У добраўпарадкаваным санаторыі на возеры Нарач мінеральная вада ліецца кругласутачна з дзвюх трубак, устаноўленых у вестыбюлі. Не забыты тут і «дзікуны», для якіх мінеральная вада падведзена проста на пляж.

Каб гэта было выключэннем! І ў іншых санаторыях, бальніцах, прадпрыемствах ліюць лекавую ваду направа і налева. Ужо больш, як два дзесяткі гадоў выліваецца яна са свідравіны ў вёсцы Бароўка Верхнедзвінскага раёна Віцебскай вобласці. Цяжка нават падлічыць, колькі «вады ўцякло». На жаль, гэта нікога не турбуе. Між тым, калі вада тут не патрэбна, дык свідравіну можна было даўно ліквідаваць, каб не наносіць шкоды радовішчу.

Ці вось яшчэ адна «пакрыўджаная» крыніца — на Мінскім аўтамабільным заводзе. Прасвідравалі яе некалькі гадоў назад, каб падвесці мінеральную ваду ў гарачыя цэхі. На яе будаўніцтва затрачана 54 тысячы рублёў. А вынік? Свідравіна даведзена да стану, непрыгоднага да эксплуатацыі, і цяпер не выкарыстоўваецца.

Наогул, распрацоўка радовішчаў вядзецца ў нас без праектаў, якія прадугледжваюць рацыянальнае і планамернае выкарыстанне запасаў лекавых вод. Сістэматычных жа гідрагеалагічных назіранняў за рэжымам падземных вод не праводзіцца ў сувязі з адсутнасцю ў рэспубліцы кантрольна-назіральных станцый.

Кантроль за рэжымам мінеральных вод, г. зн. сукупнасцю змен, якія адбываюцца ў радовішчах у залежнасці ад прыродных і штучных прычын, мае вялікае значэнне для аховы ад псавання і дачаснага вычэрпвання. Аднак паўсюль на крыніцах мінеральнай вады няма вадамераў, манометраў, узроўнемераў, тэрмометраў і, як вынік, эксплуатацыя гэтых крыніц вядзецца ўсляпую. Дарэчы, у пераважнай большасці санаторыяў і бальніц, якія выкарыстоўваюць мінеральную ваду, у якасці каптажу прыстасаваны разведвальныя свідравіны. Мы не збіраемся абвяргаць магчымасць выкарыстання разведвальных свідравін у якасці эксплуатацыйных, але, улічваючы агрэсіўныя ўласцівасці беларускай мінеральнай вады, трэба іх абсталяваць адпаведным чынам. Усім добра вядома, што салёнае асяроддзе прыводзіць да дачаснай карозіі. Такая эксплуатацыя можа прывесці не толькі да разбурэння труб і парушэння ізаляцыі каштоўных лекавых вод ад вышэйшых ваданосных гарызонтаў, але і да бактэрыялагічнага забруджвання мінеральнай вады.

Крыху лепш зроблена падводка мінеральнай вады да пітных бюветаў і ванных памяшканняў. У пераважнай большасці мінералаправоды зроблены з поліэтылену, які не паддаецца агрэсіўнаму ўздзеянню салёных вод. Але вось на Мінскім заводзе безалкагольных напіткаў мінералаправоды з-за адсутнасці поліэтылену зрабілі з нержавейнай сталі, а яна не можа замяніць поліэтылен.

У дрэнным стане знаходзіцца большасць надкаптажных будынкаў — а галоўкі шчылін манціруюцца неахайна, у сувязі з чым назіраецца пастаяннае падцяканне мінеральнай вады, падлогі земляныя, сцены не атынкаваны, не пафарбаваны масляной фарбай або не абліцаваны пліткамі. З-за антысанітарнага стану санітарна-эпідэміялагічная станцыя ў 1969 годзе забараніла эксплуатацыю свідравіны ў Наваполацку. Дарэчы, ці не час адміністрацыі Наваполацкага нафтаперапрацоўчага завода — гаспадара свідравіны прывесці яе ў належны стан і закончыць, нарэшце, будаўніцтва пітнога бювета?

Як мы адзначылі вышэй, эксплуатацыя радовішчаў мінеральных вод вядзецца без належнага пераабсталявання свідравін у эксплуатацыйныя. Адсюль неабходнасць рэгулярнага правядзення хімічнага і бактэрыялагічнага аналізу мінеральных вод. Такі аналіз, на жаль, праводзіцца вельмі рэдка. А кожная змена ў хімічным складзе, ступені мінералізацыі вады можа прывесці да змянення яе лекавых якасцей.

Асабліва важнае значэнне набывае бактэрыялагічны аналіз з-за адсутнасці акруг горна-санітарнай аховы. Яшчэ ў 1940 годзе выйшла ў свет «Палажэнне аб санітарнай ахове курортаў і мясцовасцей лекавага значэння», адобранае Саветам Народных Камісараў СССР, якое дзейнічае і ў сучасны момант. Гэты дакумент вядомы ўсім установам, якія вядуць эксплуатацыю мінеральных вод, але, на жаль, далей знаёмства справа не пайшла — акругі санітарнай аховы не створаны.

Спадзяемся, што адпаведныя міністэрствы і ведамствы прымуць меры па захаванні гідрамінеральных багаццяў рэспублікі і навядуць парадак у эксплуатацыі радовішчаў каштоўных лекавых вод.

Я. ДАМБРОЎСКІ,
інжынер-геолаг.

НАШЫ *майстры* МАСТАЦТВА

# ...І ТРЫЦЦАЦЬ ГАДОЎ — З КУПАЛАЎЦАМІ

СПАЧАТКУ яе артыстычнае імя выразна вызначылася ў трупе Другога БДТ (цяпер Беларускага тэатра імя Я. Коласа). Там, у горадзе над Дзвіной, адбывалася станаўленне актрысы Раісы Кашэльнікавай. У маладым тады калектыве энтузіястаў-шукальнікаў фарміраваўся яе густ, выпрацоўвалася культура, адбывалася набліжэнне да майстэрства. З 1939 года Р. Кашэльнікава на сцэне Першага БДТ, у трупе купалаўцаў. Мастак удумлівы, шчодры на яркія і стрыманыя акцёрскія фарбы, дапытлівы даследчык людскіх характараў, яна была і застаецца сталай і самабытнай творчай індывідуальнасцю. Яе помніць і любіць глядач.

А пачыналася... Ах, як часта ў акцёраў, здаецца, «усё» пачынаецца з уводу ў гатовы спектаклы Так і ў Раісы Мікалаеўны. «Апошнія» М. Горкага ў цікавай і змястоўнай рэдакцыі рэжысёраў М. Зорава і І. Раеўскага, у той час, калі яна ўвайшла ў іх, былі ўжо славутымі на ўсю краіну. І ёй прапануюць стаць у ім Любай Каламійцавай, адной з тых, хто і сапраўды ў сям'і паліцэйскага чыноўніка — апошні...

Канечне, былі хваляванні. Быў клопат аб тым, каб не выглядаць «госцяй» у спектаклі, а заняць трывалае месца ў цудоўным ансамблі на чале з У. Уладамірскім, В. Галінай, І. Ждановіч, Л. Ржэцкай, Б. Платонавым... Да таго ж прэм'ерай для Р. Кашэльнікавай быў паказ у далёкім Томску, дзе тэатр у вайну знаходзіўся ў эвакуацыі. Мабыць і сапраўды гэта было нечаканым — раптам ты будзеш Любай у «Апошніх»! І яна стала ёю. Цяпер мала хто ўспамінае, што выступленне Раісы Мікалаеўны, ў ансамблі самага лепшага горкаўскага спектакля ў купалаўцаў — гэта ўвод з дзвюх рэпетыцый!

Раіса Мікалаеўна ўспамінае:

— Калі я атрымала магчымасць працаваць над роляй Любы, я адчувала сябе па-сапраўднаму шчаслівай. І насцярожылася — ці змагу? Што падабалася мне ў гэтай дзяўчыне? Што «грэла» мяне, як актрысу? Перш за ўсё вялікая ўнутраная чысціня, непрымірымасць да той хлусні і фальшу, якімі жыве дом Каламійцавых. Люба спрабуе пазнаць праўду і разумее безнадзейнасць сваіх пошукаў. Ды і што зрэшты зменіць праўда ў яе скалечаным маральна і фізічна жыцці? Асабістая драма дзяўчыны паглыбляецца яе непрыгожасцю. Але нягледзячы на расчараванне, і, здавалася б, крушэнне ўсіх надзей, мне хацелася падкрэсліць у Любе прагу светлага жыцця...

Добрым словам адгукаецца актрыса пра партнёраў.

— Я захаплялася бліскучым майстэрствам Уладамірскага, Платонава, Галіны, Ждановіч, Бірылы. Побач з імі я ў сябе адразу ж адчувала, дзе сфальшывіла. Іх выкананне было для мяне тым маральным стымулам, які патрабаваў поўнай акцёрскай аддачы і пошуку праўды...

Стомлены суровы твар Любы, насцярожанасць у поглядзе і скаванасць рухаў сведчылі аб пастаянным чаканні, аб недаверу да навакольнага. Выразнымі былі вочы Любы. Калючы, халодны позірк, здавалася, пранікаў у самую сутнасць, усё бачыў, разумеў. У Любе — Кашэльнікавай спалучаліся дабро і зло, любоў і нянавісць, безабароннасць і з'едлівасць. Яна ненавідзіць Івана Каламійцава і не ўтойвае сваёй пагарды да яго. З якой унутранай сілай яна адказала на істэрычны выкрык бацькі: «Чый хлеб ты ідзеш есці, гарбатая дрэнь?» Люба ўздрыгвала і тут жа, узяўшы сябе ў рукі, спакойна адказвала: «Я буду есці хлеб вашага брата». Перакананасць і маральная перавага рабілі яе, гарбатую, узвышана прыгожай перад фанабэрыстым і нікчэмным Каламійцавым.

Адной з лепшых сцэн у спектаклі была сцэна, калі гераіня Кашэльнікавай даведваецца, што бацька Любы не Іван Каламійцаў, а Якаў, яго брат. Спачатку ў яе голасе чуецца настойлівасць, жорсткая ўпартасць у жаданні дабіцца праўды. І вось горкая праўда сказана. Люба — Кашэльнікава як быццам адразу змякчылася, моўчкі апусцілася на калені і прыпала да маці. Гэта была аддушына ў яе замкнутым жыцці. Люба раптам усім сэрцам зразумела сутнасць адносін Якава і маці. Яна шкадуе іх і плача, спачуваючы загубленаму жыццю. Але тут жа, успомніўшы аб сабе, зноў становіцца ранейшай. Ціха, з глыбокім адчаем Люба гаворыць:

— Мама, чаму я пачвара?

Гэта хвіліна прызнання была ў яе апошняй у жыцці. З гэтага часу яна назаўсёды замкнецца ў сабе і будзе з болем унутры адзінока і сумна дажываць свае дні, без любві і прызнання, без надзеі на будучае...



Вольга Уладзіміраўна Галіна, выканаўца ролі Соф'і Каламійцавай, успамінаючы спектакль «Апошнія», гаворыць:

— Упершыню я ўбачыла Раісу Кашэльнікаву ў «Разломе» Б. Лаўранёва ў БДТ-ІІ. Чароўная, мілая, абаяльная Ксеня мне вельмі спадабалася. Аднак я не зусім уяўляла гэту актрысу Любай у «Апошніх». Нягледзячы на тое, што яна ўвайшла ў спектакль пазней, калі ён жыў ужо некалькі гадоў, актрыса арганічна ўлілася ў настрой і агульны лад ансамбля. Працаваць з ёй было надзвычай цікава. Адчувалася, што яна вельмі любіць гэтую ролю, глыбока разумее і адчувае яе ўнутраную сутнасць...

У Томску Р. Кашэльнікава сыграла другую ролю, якую без перабольшання можна назваць яе лепшай работай. Купалаўская Паўлінка! Аб гэтай ролі артыстка марыла вельмі даўно. Яшчэ ў 1926 годзе, калі быў арганізаваны БДТ-ІІ, рэжысёр П. Малчанаў прапанаваў калектыву паставіць «Паўлінку». П'есу пачалі рыхтаваць у вольны ад рэпетыцый час.

— Я павінна была іграць Агату,— расказвае Раіса Мікалаеўна, — а на ролю Паўлінкі прызначылі Мазалеўскую. Мне падабалася роля Агаты, але Паўлінка вабіла ўнутранай прыгажосцю, душэўным багаццем, складаным характарам. У 1936 годзе ў гэтым жа тэатры мне пашчасціла сыграць Паўлінку. Калі я перайшла ў БДТ-І, глыбока перажывала разлуку з роляй, якая стала адной з маіх любімых. Таму вестка аб тым, што рэжысёр Леў Літвінаў вырашыў паставіць купалаўскую камедыю і даручае мне ролю Паўлінкі, вельмі ўзрадавала...

Паўлінка стала вяршыняй творчасці Р. Кашэльнікавай і, несумненна, зрабіла ўплыў на ўсе наступныя работы.

З творчасцю Янкі Купалы яна была знаёма даўно. Дзяцінства артысткі прайшло ў вёсцы Блонь, дзе педагогі і вучні школы стварылі культурна-асветны гурток. У гады грамадзянскай вайны, у час белапольскай і нямецкай акупацыі, калі забаранялася ўсё нацыянальнае, моладзь гуртка праводзіла вялікую работу па прапагандзе беларускай літаратуры. Раіса Мікалаеўна ўспамінае:

— Асабліва любоўю карысталіся ў моладзі вершы Купалы. Ніводзін вечар не абыходзіўся без таго, каб не чыталіся купалаўскія творы. Мы ведалі напамяць амаль усё, што выходзіла з-пад пяра любімага паэта. Я была актывісткай у гуртку і часта выступала на вечарах. Вершы Купалы старанна завучвала і доўга рэпеціравала дзе-небудзь у лесе, стоячы на пні. Яго вершы, бадай, упершыню абудзілі ў мяне цягу да літаратуры і мастацтва, а выкананне іх несумненна зарадзіла думку аб сцэне...

Пазней, ужо будучы артысткаю БДТ-ІІ, яна не раз сустракалася з паэтам, які прымаў удзел у падрыхтоўцы сваёй камедыі. Іван Дамінікавіч памог артыстцы знайсці «зерне» вобраза Паўлінкі.

І, нарэшце, «Паўлінка» на сцэне сталічнага тэатра. Ніколі яшчэ на долю актрысы не выпадала столькі прыемных слоў. Паўлінка — Кашэльнікава захапляла ўсіх, хто яе бачыў. Гледачы Масквы і Варшавы, Кіева і Беластока, Харкава і Адэсы заўсёды цёпла прымалі беларускую актрысу. Незнаёмыя людзі падыходзілі да Р. Кашэльнікавай на вуліцы і дзякавалі за тое, што яна праўдзіва і шчыра расказвае гісторыю беларускай дзяўчыны, гордай і моцнай, мужнай і пяшчотнай. Раіса Мікалаеўна атрымала шмат пісьмаў з розных куткоў Савецкага Саюза. Многія з іх, напрыклад, пісьмо С. А. Піскуна, гледача з горада Кіева, так і пачыналіся: «Дарагая Паўлінка!...»

Яшчэ раз у сваёй творчай біяграфіі Р. Кашэльнікавай давялося сустрэцца з Я. Купалам у 1952 годзе, прычым не зусім звычайна. Яна іграла жонку паэта — Уладзіславу Луцэвіч—у спектаклі «Шчасце паэта» па п'есе В. Віткі. Асабістае знаёмства з Уладзіславай Францаўнай і Янкам Купалам вельмі дапамагло актрысе. Жонка паэта прысутнічала на ўсіх рэпетыцыях і вельмі крытычна ставілася да выканання Р. Кашэльнікавай. Раіса Мікалаеўна шмат разоў гутарыла з «цёцяй Уладзяй», як ласкава звалі яе знаёмыя, цікавілася падрабязнасцямі яе маладосці, жыцця ў Вільні, адносін з маладым Купалам. Здаралася, яны спрачаліся, бо драматург і актрыса, на думку цёці Уладзі, ідэалізавалі яе...

У газетным артыкуле немагчыма пералічыць і ахарактарызаваць усе работы, створаныя актрысаю такога шырокага творчага дыяпазону. У яе рэпертуары знайшлі сваё цудоўнае ўвасабленне ярка-камедыйныя і драматычныя ролі. Якія непадобныя былі ў выкананні Р. Кашэльнікавай персанажы Астроўскага — разумная драпежная Глафіра, маральнае крэда якой выказваюць словы «ўсе сродкі добрыя для дасягнення мэты» («Ваўкі і авечкі»), і бясклопатная нікчэмнасць, капрызная і свавольная, да мазгу касцей разбэшчаная паразітычным існаваннем удава Лябёдкіна («Позняе каханне»), чыстая, узвышаная Ларыса, якая гіне ў хцівым асяроддзі паратавых і карандышавых («Беспасажніца»).

Народны артыст СССР Мікалай Мардзвінаў, які ўбачыў Кашэльнікаву ў 1947 годзе ў «Апошніх» М. Горкага, захапляўся яе выкананнем. Ларыса з «Беспасажніцы» А. Астроўскага так узрушыла Якуба Коласа, што ён сказаў актрысе фразу, якая запомнілася на ўсё жыццё: «Цяпер вы ў маёй памяці назаўсёды застанецеся Ларысаю Дзмітрыеўнай Агудалавай...» А вось што пісаў пра Р. Кашэльнікаву рэжысёр МХАТа І. Раеўскі: «З артысткаю Р. Кашэльнікавай я сустрэўся ўпершыню, але гэта сустрэча была прыемнай. Актрыса вельмі яркая, з тэмпераментам і гумарам. Безумоўна, Кашэльнікава — адна з лепшых і таленавітых актрыс тэатра»...

Крыніца яе творчых шуканняў — жыццё, роздум аб ім. Яе Люба Шаўцова са спектакля «Маладая гвардыя» па рамане А. Фадзеева была работай не этапнай у творчасці артысткі, але і гэтай гераіні Раіса Мікалаеўна аддала сваё сэрца. Нават нешта запаветнае. Чаму?

...Ішоў трывожны 1920 год. У мястэчку Блонь была арганізавана нелегальная камсамольская ячэйка. У канцы года Чырвоная Армія вызваліла Блонь ад белапалякаў, і камсамольцы выйшлі з падполля. Яны аказвалі вялікую дапамогу нашай разведцы, а таксама ў асабістых гутарках і на сходах тлумачылі сялянству задачы Савецкай улады. Актыўны ўдзел у рабоце ячэйкі прымалі сёстры Рая і Шура Кашэльнікавы. У Раісы Мікалаеўны багаты хатні архіў, дзе захоўваюцца рэцэнзіі і фатаграфіі розных гадоў. З асаблівым хваляваннем паказвае яна артыкул былога сакратара блонскай камсамольскай арганізацыі камуніста К. Шклярыка, у якім гаворыцца не пра актрысу Р. Кашэльнікаву, а пра камсамолку-падпольшчыцу, мужнага барацьбіта за агульнанародную справу. Раіса Мікалаеўна і зараз падтрымлівае сувязь з блонскай камсамоліяй. Ёй пастаянна пішуць піянеры і камсамольцы з яе роднай школы.

На гэтым, бадай, можна было і закончыць артыкул. Але ў фінале мне хочацца сказаць вось аб чым. Можа і не варта кідаць у «бочку мёду лыжку дзёгцю», калі б цяперашняе становішча Р. Кашэльнікавай у тэатры было выключэннем з правіла. Актрыса, якая дасягнула сталасці і высокага майстэрства, амаль не занята ў сённяшнім рэпертуары. Адзінай значнай работай Раісы Мікалаеўны за некалькі апошніх гадоў была роля ў спектаклі «10 сутак за каханне», не вартая яе таленту і вопыту. Гэта бяда не толькі Р. Кашэльнікавай. У такім самым становішчы многія акцёры старэйшага пакалення тэатра імя Я. Купалы. І атрымліваецца, што сапраўды заслужаныя і сапраўдныя юбіляры тэатра стаяць у дні свята крыху «ў баку» ад паўсядзённага творчага жыцця.

Хочацца пажадаць Раісе Мікалаеўне Кашэльнікавай яшчэ шмат добрых роляў, якія яна па праве заслужыла.

Тамара ГАРОБЧАНКА.







Р. Кашэльнікава ў ролях: Паўлінкі («Паўлінка»), Глафіры Клімаўны Глумавай («На ўсякага мудраца даволі прастаты»), Марыі Мікалаеўны Смірновай («Паўночная мадонна»), Вольгі Паўлаўны («Ён бяжыць ад ночы»).

Адам МАЛЬДЗІС

# СЛЯДЫ ПРОДКАЎ

## III. КРЫХУ РОЗДУМУ ВАКОЛ МУЗЕЙНАГА ЭКСПАНАТА

На прыступкі Слуцкага гісторыка-краязнаўчага музея ўзнімаўся я з прадчуваннем нязвычнага.

Думалася: тут на ўласныя вочы пабачу цуды, якімі здаўна славілася слуцкая зямля.

Калі не калекцыю, то, прынамсі, некалькі унікальных слуцкіх паясоў, вытканых у майстэрні Яна Маджарскага. Цэлы стэнд, прысвечаны гэтай майстэрні. Кампазіцыю ж такога стэнда якраз падказвае верш М. Багдановіча «Слуцкія ткачыхі».

Дзівоснае шкло, якое ў XVIII стагоддзі плавілі беларускія прыгонныя майстры непадалёку ад Слуцка — ва Урэцкай гуце. Яно, упрыгожанае мясцовым арнаментам, высока цанілася нават у каралеўскіх дварах.

Акварэлі мастака і рэвалюцыянера, ссыльнага сябра Т. Шаўчэнкі Браніслава Залескага. Ён нарадзіўся, жыў і тварыў у Рачкавічах ля Слуцка.

Матэрыялы пра выдатную рэвалюцыянерку ўраджэнку Случчыны Марыю Багушэвіч. У 80-х гадах мінулага стагоддзя яна была адным з кіраўнікоў першай польскай марксісцкай партыі «Пралетарыят», членам яе ЦК. Памерла ад сухотаў па дарозе ў сібірскую ссылку.

Творы і асабістыя рэчы пісьменнікаў, якіх багата дала Беларусі слуцкая зямля.

Кнігі, надрукаваныя ў розныя часы ў Слуцку.

Вырабы мясцовых народных умельцаў.

Урэшце, унікальныя рэчы, якія захоўваліся раней у Слуцку. Напрыклад, у 1896 годзе Ф. Серна-Салаўевіч пісаў у брашуры «Древнерусский город Слуцк и его святыни», што ў рызніцы сабора Троіцкага манастыра знаходзіўся абраз Дзмітрыя Растоўскага, які, кажа легенда, пісаў тут свае «Четьи-минеи». Д. Растоўскі выкапаў у Слуцку калодзеж і выразаў на яго зрубе такія патрыятычныя радкі (невядомы мастак паўтарыў іх на абразе):

> Почто нам в Самарыю за водой хадзіці,
> Егда і здзе, в Случэске, лепо ее піці.

Апрача абраза, сведчыць Серна-Салаўевіч, у рызніцы захоўваліся сярэбраны пасох з надпісам 1580 года, папір таго ж года, рукапіснае евангелле Юрыя Алелькі («верх мастацкай дасканаласці»). І мноства кніг, выдадзеных не пазней 1649 года...

Дзе быць гэтым рэчам, як не ў мясцовым музеі?!

Аднак мае прадчуванні і спадзяванні не спраўдзіліся.

У музеі аказаўся толькі маленькі шматок слуцкага пояса, падараваны Дзяржаўным музеем БССР. Замест урэцкага шкла — шкляны сіфон для газіроўкі пачатку XX ст. (выраблены, праўда, на мясцовым заводзе). Замест слуцкіх старадрукаў — тры іх фотакопіі. Ні слова пра Залескага і Багушэвіч. Ні слова пра многіх славутых выпускнікоў Слуцкай гімназіі. З пісьменнікаў, звязаных са Случчынай, толькі адзін В. Вітка надаслаў музею сваё фота з аўтографам (ёсць яшчэ і падпісаны аўтарам «Слуцкі пояс» А. Астрэйкі). Усюды — фотакопіі, фотакопіі, вядомыя, часцей за ўсё, па кнігах. І толькі зрэдку трапіцца нешта непаўторнае, дзеля чаго людзі і ходзяць у музеі, — добра захаваная грыўня часоў Кіеўскай Русі або пісаны арыгінальным шыфрам партызанскі дзённік Н. Радзюка, які мужна загінуў у 1943 годзе.

— А што рабіць, дзе браць экспанаты? — пераходзіць у контратаку дырэктар музея Л. Шуба. — Была вайна. Потым многае загінула, калі музей часова закрываўся ў сярэдзіне 50-х гадоў. Сёе-тое набываем. Вось нядаўна атрымалі два рукапісныя зборнікі мясцовага настаўніка Андрэя Лешчанкі. Ён сабраў народныя песні Случчыны і прыпеўкі часоў Айчыннай вайны. Але з унікальнымі рэчамі — кепска.

І сапраўды: дзе браць экспанаты?

**Вандруючы па Беларусі, з гэтым пытаннем я сустракаўся неаднаразова.**

**Задавала мне яго новы дырэктар Дома-музея Адама Міцкевіча ў Навагрудку Н. Гурына. У сувязі з абнаўленнем экспазіцыі яна хоча, каб творчасць нашага геніяльнага земляка паказаць на больш шырокім грамадска-культурным фоне. А гэта — і беларускія паплечнікі Міцкевіча, і паднявольнае жыццё беларускіх сялян, фальклор якіх натхняў польскага паэта на стварэнне балад і рамансаў, і рэчы матэрыяльнай культуры міцкевічаўскай эпохі. Пакуль жа ў музеі пераважаюць тыя ж фотакопіі і муляжы кніг (праўда, пры ўважлівым аглядзе сярод іх мы знайшлі нідзе не агавораныя... тры прыжыццёвыя выданні Міцкевіча). Вядома, экскурсанты з глыбокай пашанай спыняюцца ля багата ўпрыгожанага футляра ад асабістага гадзінніка паэта, ля яго акуляраў. Але... Але ўпэўненасці, што гэтыя рэчы належалі Міцкевічу, няма. Пра акуляры, напрыклад, у інвентарнай кнізе ёсць толькі запіс 1958 года, што яны набыты ў 1955 годзе. Ад каго? Якім чынам? Ніякай легенды, абавязковай для музейнага экспаната! Да таго ж, наколькі помню, у мемуарнай літаратуры нідзе не гаворыцца, што Міцкевіч насіў акуляры... Тут узнікае цэлая праблема, асабліва вострая ў Беларусі, аўтэнтычнасці музейнага экспаната: хутчэй за ўсё, колішні дырэктар Дома-музея Сокал-Кутылоўскі — а ён быў здольны на такое — выдаў за міцкевічаўскія звычайныя акуляры міцкевічаўскай пары).**

**Дзе браць экспанаты?**

**Гэта пытанне паўстала і ў Слонімскім гісторыка-краязнаўчым музеі. Як вядома, у XVIII стагоддзі пры слонімскім двары гетмана Агінскага быў славуты на ўсю Еўропу прыгонны тэатр — драма, опера, балет. Тут друкаваліся кнігі. Тут выхоўваўся пляменнік гетмана аўтар паланеза «Развітанне з радзімай» М. К. Агінскі. Але на маё пытанне, як усё гэта прадстаўлена ў экспазіцыі (сам музей быў на рамонце), дырэктар музея І. Шпыркова адказала:**

**— Ды ніяк. Нават партрэт Агінскага цяпер не даём. Усё ж дваранін быў. Вы кажаце, для таго часу быў перадавым чалавекам? Многае зрабіў для эканамічнага і культурнага развіцця Беларусі? Вы кажаце, што гісторыю нельга падпраўляць, паляпшаць або пагаршаць? Не ведаю, можа і так. Але дзе мы возьмем экспанаты, каб паказаць усё гэта! Кажаце, у Вільнюсе захоўваюцца слонімскія выданні, замалёўкі слонімскага тэатра? Магчыма. Але наш навуковы супрацоўнік не можа паехаць туды, бо не мае адпаведных кваліфікацый для такіх пошукаў...**

І сапраўды: дзе браць экспанаты?

Перад дырэктарам Дзятлаўскага музея народнай славы Міхаілам Фёдаравічам Петрыкевічам такое пытанне сёння не паўстае.

— Яно паўставала ў 1967 годзе, калі я прыехаў сюды перад адкрыццём музея, — шчыра прызнаецца Міхаіл Фёдаравіч. — Тады проста жах узяў мяне: два паверхі, столькі пакояў — і ніводнага экспаната.

А цяпер Міхаіла Фёдаравіча турбуе іншае: **як размясціць** сабраныя экспанаты. Хаця ў музеі пакуль што паказана не ўся гісторыя Дзятлаўшчыны, а толькі з 1917 года, — на стэндах цесна. Не ад фотакопій і муляжоў — ад арыгінальных рэчаў, дакументаў, выданняў. Напрыклад, такой паўнаты, з якой паказаны жыццё і барацьба працоўных былой Заходняй Беларусі супраць санацыйнага рэжыму, я не бачыў ні ў якім іншым беларускім музеі.

І пра кожны з экспанатаў Міхаіл Фёдаравіч можа расказаць доўгую і захапляючую гісторыю.

Вось бірулька да гадзінніка, адмыслова сплеценая з рознакаляровых конскіх валасоў. Вясёлкаю пераліваюцца сонца, зорка, рыбка... Зрабіў яе ў навагрудскай турме былы член КПЗБ, а цяпер бухгалтар вузла сувязі ў Дзятлаве Б. Ленка.

Вось прысадзістае крэсла XVIII стагоддзя. Калісьці яно стаяла ў дзятлаўскай рэзідэнцыі Радзівілаў. У дні Вялікай Айчыннай вайны загадчык гаспадаркі мясцовай бальніцы Аляксандр Хадаркевіч хаваў у пружынах крэсла гранаты, партызанскія газеты і лістоўкі. Напярэдадні вызвалення фашысты замучылі патрыёта. Але сын Аляксандра Хадаркевіча запомніў усё. Расказаў ён Петрыкевічу і пра крэсла. Дзесяткі дзён пайшлі на пошукі. Крэсла знайшлося аж у Наваельні. Аббітае новай тканінай, але — без падробкі.

Вось нявінная з выгляду кніжачка «Як дабіцца добрага ўраджаю на худой зямлі», выдадзеная, калі верыць вокладцы, у Вільні ў 1934 годзе. Але гэта камуфляж. Пад вокладкай — адозвы КПЗБ. Унікальную кніжачку знайшлі ў страсе старога гумна.

Вось колішняя вучнёўская торбачка, пашытая з грубога палатна і пафарбаваная ў руды колер альховай карой. Вось гаршок, які разбіўся на дзесяткі чарапкоў. Чарапкі ювелірна сцягнуты дротам — не было за што купіць новы. Хіба не скажуць такія экспанаты наведвальніку больш, чым цэлая лекцыя аб былой галечы?!

Не, пра кожны з экспанатаў у Дзятлаўскім музеі народнай славы не расскажаш. Іх трэба пабачыць уласнымі вачыма. І людзі ідуць, каб пабачыць. Вясной і летам кожны дзень у музеі бывае 70—100 чалавек. Многія з іх прыносяць з сабой падарункі. Пераважаюць рэчы і дакументы нядаўняга часу, але бывае і даўніна. У музеі ўжо сабралася калекцыя рэчаў 1812 года, дагістарычнай пары.

— Як вы паспяваеце ўсё гэта рабіць? — здзіўлена пытаюся ў Міхаіла Фёдаравіча.

— А ў мяне многа памочнікаў, — усміхаецца ў адказ дырэктар. — Грамадскімі экскурсаводамі працуюць 18 камсамольцаў мясцовай школы. Трое з іх атрымалі бронзавыя медалі ВДНГ. Ну і райком партыі штодзённа цікавіцца намі.

**Па сціпласці Міхаіл Фёдаравіч не сказаў, што і сам ён атрымаў бронзавы медаль ВДНГ, што нядаўна, у сувязі з юбілейным ленінскім аглядам музей атрымаў прэмію Міністэрства культуры БССР. Пра поспехі Дзятлаўскага музея можна было б пісаць многа. Аб іх была гаворка нават на ўсесаюзным семінары музейных работнікаў ва Ульянаўску. І тлумачацца гэтыя поспехі проста: дзякуючы руплівасці дырэктара і яго памочнікаў у музеі ёсць што глядзець!**

Не паўстае пытанне, дзе браць экспанаты, і ў Аляксандра Мікалаевіча Белакоза, арганізатара літаратурна-краязнаўчага музея ў Гудзевіцкай дзесяцігодцы Мастоўскага раёна. Ён іх проста шукае і здабывае, дзе толькі можна.

Гудзевіцкі музей я аглядаў у дзень, калі Аляксандра Мікалавіча не было дома — як кіраўнік раённай секцыі настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры ён рупіўся якраз наконт экскурсіі па мясцінах, звязаных з творчасцю Багушэвіча і Цёткі. Знайшла ключ і адчыніла дзверы жонка Аляксандра Мікалаевіча, улюбёны ў мужаву справу чалавек.

Тое, што я пабачыў у Гудзевічах, называць музеем у поўным сэнсе гэтага слова можа яшчэ і гучнавата. Адзін пакой, просценькія стэнды. Можа, не зусім прадуманае ў прапорцыях і паслядоўнасці размяшчэнне экспанатаў, асабліва гістарычных. Але экспанаты ёсць. Я ўпэўнены, што літаратуразнаўцы XXI стагоддзя ды і больш блізкага часу не раз будуць выкарыстоўваць матэрыялы, сабраныя ў Гудзевічах, спасылацца на іх. З дапамогай вучняў Аляксандр Мікалаевіч з зайздроснай настойлівасцю збірае ўсё, што датычыцца літаратурнага жыцця Гродзеншчыны, мінулага роднага краю. Арыгінальныя экспанаты, звязаныя з рэвалюцыйнай дзейнасцю К. Каліноўскага, паступілі, напрыклад, ад П. Сергіевіча і Г. Кісялёва. Мясцовы скульптар стварыў бюст паэта-падпольшчыка Міхася Явара, які жыў і загінуў у суседняй вёсцы. Спаралізаваная жанчына Надзея Маркаўна Шнаркевіч прыслала вялікую ляльку — яна апранута ў беларускі народны касцюм, зроблены з кавалачкаў дамatканых тканін. І кожны кавалачак быў дабыты з куфраў палескіх майстрых. Падарункі музею (хто ж адмовіць вучням?) паступаюць літаральна адусюль — з Мінска і Гродна, Масквы і Вільнюса, Варшавы і Прагі. Экспануюцца кнігі, фотаздымкі і выказванні аб роднай мове, атрыманыя ад К. Крапівы і М. Лынькова, П. Броўкі і М. Танка, К. Буйло і І. Мележа, Ю. Семянякі і М. Забэйды-Суміцкага. Тут жа цікавейшы рукапісны часопіс «Прамяньчык», які ўжо год з пяць выпускаецца юнымі сябрамі музея. Тут жа — вялікая калекцыя посцілак, ручнікоў і паяскоў, вытканых мясцовымі ўмельцамі. Тут жа — праілюстраваная фатаграфіямі і дакументамі стогадовая гісторыя Гудзевіцкай школы. Асабліва цікавая яе старонка — падпольнае навучанне ў гады гітлераўскай навалы... Не, цяжка нават пералічыць усё цікавае, што сабрана ў Гудзевіцкім музеі.

Пішучы гэтыя нататкі, я ні ў якім разе не хачу **супрацьпаставіць** Слуцкі і Слонімскі музеі музеям у Дзятлаве і Гудзевічах: тут, маўляў, усё дрэнна, а там — усё добра. Якраз пра цяжкасці і недахопы мы многа гаварылі і з М. Петрыкевічам, і з А. Белакозам. Да таго ж на такое супрацьпастаўленне я не маю маральнага права. Магчыма, у Міністэрстве культуры БССР мне маглі б падказаць больш яркія і характэрныя прыклады са знакам плюс і са знакам мінус. У гэтых жа нататках я зыходжу толькі са сваіх асабістых, часта суб'ектыўных уражанняў, свядома раблю акцэнт на XVIII і XIX стагоддзях, якія ўваходзяць у кола маіх даследчыцкіх інтарэсаў. За апошнія гады мне ўдалося пабываць у некалькіх дзесятках беларускіх музеяў. Адны з іх (музей Брэсцкай крэпасці, прыродазнаўчы ў Белавежскай пушчы, гісторыка-археалагічны ў Гродне) падабаліся больш, другія (абласны ў Гомелі) менш, трэція (у Бярозе) па сваёй казённасці не падабаліся зусім. Але быў я далёка не ва ўсіх музеях і таму, паўтараю, для абагульненняў і нейкага супрацьпастаўлення ў мяне няма падстаў. Ёсць толькі падставы для **супастаўлення**.

А такое супастаўленне наводзіць на роздум.

Знаёмства з музеямі ў Дзятлаве і Гудзевічах яшчэ раз пераканала мяне, што поспех у збіранні музейных скарбаў — як і ўвогуле ў збіральніцтве — залежыць ад энтузіязму, апантанасці кіраўніка. Энтузіязм жа — такая рэч, што калі яна ёсць, то ёсць, калі ж няма, то няма. Беларускія музеі ведалі многіх апантаных. Быў ім Вацлаў Федаровіч, які яшчэ да рэвалюцыі сабраў у Віцебску нешта каля двух тысяч археалагічных экспанатаў. Былі імі гісторыкі браты Тышкевічы з Лагойска, дзе ў сярэдзіне мінулага стагоддзя знаходзілася багацейшая калекцыя прылад каменнага, бронзавага і жалезнага веку, зброі, карцін і гравюр. Быў ім Аляксандр Ельскі з Замосця, на зборы якога прыязджалі падзівіцца ажно з Францыі і Даніі.

Не перавяліся апантаныя і цяпер. Я ніколі не быў у Крычаўскім краязнаўчым музеі, не знаёмы з яго дырэктарам М Мельнікавым, але чытаў яго артыкулы і таму перакананы, што ён ніколі не будзе прыкрывацца рытарычным пытаннем: дзе браць экспанаты?! Пра некалькіх такіх энтузіястаў мне расказваў супрацоўнік Маладзечанскага музея, сам руплівы збіральнік, Генадзь Каханоўскі. Каб папоўніць школьны музей, адзін з іх, выкладчык працы ў Дукорскай дзесяцігодцы Пухавіцкага раёна Васіль Цімафеевіч Свістун, ахвяраваў нават палавінай уласнага кабана. Настаўнікі з вёскі Баравое Дзяржынскага раёна на ўласныя грошы ездзілі ў Ленінград, каб сабраць матэрыялы па гісторыі роднага краю. А Лявон Дзмітравіч Клок з Дзяржаўнага музея БССР... А Іван Іосіфавіч Калоша са Снова Нясвіжскага раёна... А Уладзімір Аляксандравіч Урбановіч з Валеўкі, што на Навагрудчыне. А Мсціслаў Уладзіміравіч Семак з Лунненскай школы на Гродзеншчыне. Ды хіба пералічыш усіх краязнаўцаў, якія збіраюць скарбы мінулых вякоў, не таму, што за гэта плацяць зарплату, а на грамадскіх пачатках, па загадзе сэрца.

**На жаль, такіх людзей у Беларусі менш, чым хацелася б. Часам у навуковыя супрацоўнікі дзяржаўных музеяў ідуць людзі выпадковыя, абыякавыя. Можна было б тут прывесці канкрэтныя прозвішчы, але справа не ў прозвішчах, а ў агульнай тэндэнцыі. На месцы часта лічаць, што ў музеі працаваць лёгка, што з музейнай работай справіцца кожны. А музей патрабуе не толькі сумленнасці. Ён патрабуе ўсебаковай, універсальнай эрудыцыі, гарэння... Пакуль што такіх музейных» работнікаў, такіх краязнаўцаў шырокага профілю ў Беларусі вельмі мала. Ды і каму іх рыхтаваць? Нядаўна ў друку прамільгнула паведамленне, што літоўскаму музеязнаўцу П. Галаўні прысуджана рэспубліканская прэмія за працы па народным мастацтве. А каго ў Беларусі можна назваць музеязнаўцам?!**

Энтузіязм краязнаўцаў—у гэтым я пераканаўся ў час паездкі — дае найлепшыя вынікі, калі ён падтрымліваецца мясцовымі грамадскімі арганізацыямі. Возьмем тое ж Дзятлава. М. Петрыкевіч паўсядзённа адчувае такую падтрымку з боку райкома партыі, райвыканкома, гарпасялковага Савета. Яна — і ў клопатах пра бытавыя ўмовы супрацоўнікаў музея, і ў дапамозе ім з'ездзіць («паглядзіце, як у людзей») у вядучыя музеі краіны і нават за мяжу. І ў тым, што адказныя работнікі раёна лічаць сваім гонарам знайсці і прывезці ў музей новы экспанат. Такую ж штодзённую ўвагу адчуваюць супрацоўнікі Маладзечанскага музея з боку сакратара райкома партыі Вячаслава Антонавіча Ляшковіча. Ён часты і жаданы госць у музеі, здабыў для яго нямала экспанатаў. Ды і як жа інакш: музеі ў нас — не мёртвыя сховішчы старасвеччыны, а жывыя памочнікі партыі ў выхаванні новага чалавека!

Асабістая ініцыятыва, шырокі кругагляд, увага грамадскасці... Усе гэтыя моманты вельмі важныя ў музейнай справе. Але яны, як кажуць, нажыўныя: пасіўнага дырэктара заўсёды можна замяніць актыўным. Куды складаней — з аб'ектыўнымі цяжкасцямі. Нават самы заўзяты збіральнік не ў сіле знайсці тое, што ўжо не існуе

Заканчэнне. Пачатак у №№ 55 і 56.

# РЫТМЫ СОНЕЧНАЙ МАЛДОВЫ

*Малдаўская паэзія — ураджайная гронка на дрэве савецкай шматнацыянальнай літаратуры. Увабраўшы ў сябе глыбінныя сокі зямлі і сонечную шчодрасць поўдня, яна то задумлівая, нібы вячыстыя кодры на схілах гор, то бурлівая, нібы празрыстыя горныя рачулкі, і на дзіва ж тэмпераментная, музычная, як і сам народ.*

*Нават недаўгачаснае знаёмства з Малдавіяй, сустрэчы з яе літаратарамі, артыстамі, рабочай і студэнцкай моладдзю далі магчымасць мне ўбачыць і адчуць, як любяць тут літаратуру, як дбаюць пра яе будучыню — маладыя таленты.*

*Прапаную ўвазе чытачоў вершы вядомых малдаўскіх паэтаў В. Тэлеўкэ і Г. Віеру ў сваім перакладзе.*

Анатоль ГРАЧАНІКАЎ.

Грыгорэ ВІЕРУ



## АРФА

А думаў я:
спяваць і змеі ўмеюць,
І нацягнуў на арфу струны-змеі
Між струнамі, што з матчынай
касы
І вінаграднай маладой лазы.
Я стаў пад яблыняй,
плады дзе даспявалі,—
Салодка
струны-змеі заспявалі.
Калі ж у лес я скіраваў з дарогі,
Яны пякуча абвілі мне ногі,
Няўцерпна цела, ліпкія, кусалі,
Жывую з песні
Кроў яны смакталі...
Паспеў струн матчыных
крануцца я рукой,—
І адгукнуліся сябры на покліч мой,
А зноў жыццё запульсавала
ў целе,—
убачыў я,
што струны матчыны ссівелі.

## АДЗІНОТА

Пярэстарак-месяц
На неба вылез рана.
Жанчына спаць кладзецца,
А з ёю—цень платана.
З ім не абмяняцца
Ні позіркам, ні словам.
Як звабна коўдра пахне
Дымам тытунёвым!
Да самага світання,
Угрэўшыся патрошку,
У нямых абдымках смутку
Гайдацца ёй на ложку.
А боль сціскае скроні ёй,
Пакута — сэрца месіць.
Яна на свой гарачы лоб
Кладзе халодны месяц.
І толькі золак адцвіце,
На падаконне ляжа,
Яна засне, на жываце
Стамлёна рукі склаўшы.
Ёй сніцца, што ідзе насустрач
З чырвоным мячыкам дзіцёнак.
Падобны з твару на яе
І на каго?—не пазнае...
Спалохана прачнецца:
Было ці сон прысніўся?
Мяч вогненнага сонца
Аб шыбіну разбіўся.

Віктар ТЭЛЕУКЭ



## ЛІСТЫ ДА ВОСЕНІ

Не мудрагелячы,
Мы пішам ногцем іх
на запацелых шыбінах
і на ілбе гарбуза,
І нашы думкі працінае боль:
адкуль, чаму
у іх і весялосць, і засмучэнне?
Калі ў кветак вострыя шыпы,
Бяруць іх далікатна, асцярожна.
Яны, як думкі волатаў-людзей
з цёмнымі і светлымі вачыма,—
Саната Баха, вершы Лоркі...
Усё лісты, лісты...
Але куды?
І што яны вяшчуюць думкі-спевы?
Як іх не прачытае чалавек,
То калі-небудзь прачытаюць
дрэвы.

І мы ўсё пішам іх,
балабоны і маўчуны,
настаўнікі, дарадцы, шаптуны.
Калі ж адчыніш вокны на
дасвецці,—
Употайкі лісты змывае вецер.
А недзе нехта нараджаецца
ці памірае,
хто плача, хто смяецца,
хто кахае.
Лісты, лісты...
і думак, і дажджоў,
Спякотных вуснаў і вачэй
вільготных...
А сярод нас хто-небудзь з нас,
як усытнелы цецярук лапоча,
на вогненна-халодным
такавішчы...

Учора ноч, цяжкая, нібы камень,
здавіла грудзі мне. І я прачнуўся.
Лашчыўся да шыбін халодны
дождж.
І мне цябе нясцерпна
убачыць захацелася, ды ў хаце
было маўкліва, пуста і трывожна.
На чорных крылах ночы я пісаў
табе свой ліст. А дождж яго
змываў.
Смуткам ці радасцю ўсцелеца
шлях?
Адцвілі калючыя ружы ў садах...

## ВОСЕННЮ НА ДАСВЕЦЦІ

Сяляне спяць заўжды менш ад
усіх,
Ці хочацца ім гэтага, ці не.
Такі ўжо лёс бяссонны выпаў ім:
Што дзень—то праца, стома
цёмных рук,
А дома ў хаце—драбней маку
дзеці
І песні з горкім прысмакам
самоты.
У філасофіі іхняй, нібы
ў крыніцы,—чыста,
Не любяць яны балбатні, а ў хаце
яшчэ—і свісту.
Не хваліся ім, што сам ты з сяла.
А калі падносяць табе шклянку
віна,
Не аднеквайся. Хто з нас
не любіць горкага?
Вось ідуць яны прыгорбленыя,
як вяршыні ўзгоркаў,
І цёмначы пераклікаюцца
прастуджанымі галасамі,
Адшукваюць адзін аднаго па
мігценні цыгарак,
Што вечна тырчаць пад вусамі.
І пакуль мітуслівыя жонкі
Уходжваюць дываны на тыну,
Яны абмяркоўваюць начальства,
Жанчын, тытунь і вайну.
Пасля ў поле ідуць—
смугою дасветнай атуленыя.
І дзіўна: ўвесь дзень
Для сяла яны — як згубленыя.

ПА ВЫСТАВАЧНЫХ ЗАЛАХ

# ПАСЛЯДОЎНАСЦЬ

ПРА ТВОРЫ Анатоля Волкава — жывапісца, графіка, акварэліста, вядомага сатырыка — шмат пісалася. Здарылася нагода яшчэ раз гэта зрабіць—у памяшканні Саюза мастакоў БССР адкрылася персанальная выстаўка яго твораў. Яна прысвечана 60-годдзю з дня нараджэння і 35-годдзю творчай дзейнасці мастака. У экспазіцыі шырока прадстаўлены не толькі вядомыя ранней творы, якія паспеў палюбіць глядач, але і вельмі многа новых, створаных зусім нядаўна.

Звернем перш за ўсё ўвагу не на яго сатырычныя лісты. Агульнапрызнана, што мастак трапна, з усёй красамоўнасцю, на якую здатны вострая сатыра і дасціпны гумар, віртуозна выяўляе самыя разнастайныя адценні характару, паводзін сваіх персанажаў —выводзіць іх на чыстую ваду або па-сяброўску жартуе.

І ўсё-такі звернем перш за ўсё ўвагу на яго работы лірычнага плана. Тут не менш красамоўна выяўляюцца дарагія нам рысы таленту Анатоля Волкава—умельства вельмі проста і пераканаўча раскрыць у хвалюючых вобразах прыгажосць жыцця.

Спачатку — пра дзве істотныя акалічнасці яго творчасці. Першая — надзвычайная працаздольнасць. Другая — паслядоўнасць у творчых пошуках.

Сапраўды, шмат аддаючы ўвагі кніжнай графіцы, сатыры, якая патрабуе неадкладнага рэагавання на «злобу дня», Анатоль Волкаў пастаянна піша вельмі многа пейзажаў. Ён ставіць перад сабой самыя разнастайныя задачы. У той жа час шмат творчай энергіі і напружаных пошукаў аддае жанравай акварэлі. Калі так можна сказаць—акварэльнай тэматычнай кампазіцыі. Шырока вядомы яго даўнейшыя тэматычныя серыі, прысвечаныя Мінску і мінчанам, беларускім партызанам. Нядаўна з'явілася новая серыя — «Дзеці дваццатых гадоў»: «Беспрытульнікі», «Дзяржынскі з беспрытульнікамі», «Першая калонія».

Нейкі час здавалася, быццам Анатоль Волкаў застыў у сваім развіцці як мастак. Засвоіў, маўляў, віртуозна шэраг прыёмаў, дастасоўвае іх па-рознаму да розных задач, амаль не рухаецца наперад. Але так магло здацца толькі павярхоўнаму воку. Бо мастак паслядоўна развівае свае творчыя прынцыпы. Эвалюцыя яго стылю не кідаецца ў вочы. Але непрыкметнасць зрухаў зусім не азначае, быццам яны адсутнічаюць начыста.

Творчыя пошукі Анатоля Волкава ў акварэлі, пераконваюць, што ён паступова і паслядоўна развівае засвоеныя ад настаўнікаў і знойдзеныя самім, прыёмы. Асабліва відавочна гэта, калі параўноўваеш пейзажы даўнейшыя і нядаўняга часу. Што граха таіць, здаралася і пэўная сухасць, і аднолькава падрабязны пералік дэталяў. Здараліся і каларыстычныя няўдачы. Але ў каго яны не бываюць, калі справа заходзіць аб такой тонкай і капрызнай тэхніцы, як акварэль. А вось новыя пейзажы Крыма і Беларусі. Яны ўвачавідкі пераконваюць: паступовыя, амаль невідочныя змены ў падыходзе да натуры, у яе перажыванні нараджаюць лісты, адзначаныя высокай паэзіяй, тонкімі пачуццямі. Прыгажосць і паэзія роднай прыроды, прыгажосць і паэзія Крыма знаходзяць у асобе гэтага мастака свайго тонкага вытлумачальніка.

Кажу не толькі пра натуральнасць мовы, пра рашучае адкіданне знешне эфектных, так званых «чыста акварэльных» прыёмаў. Маю на ўвазе перш за ўсё пэўныя змены ў самім унутраным свеце мастака. Тыя змены, якія даюць магчымасць расказаць пра чалавека праз пейзаж глыбей, больш усхвалявана, чым гэта ўдавалася Анатолю Волкаву раней. Сапраўды, паглядзіце, як непасрэдна, свежа напісана, скажам, беларуская вёсачка або каменныя грамады Крыма. Не толькі на дзіва тонкі каларыт, чысты колер, празрыстасць, пры якой актыўнейшым чынам скарыстоўваецца колер паперы, але і надзвычай тонкае адчуванне гармоніі неба і зямлі, першазданнай прыроды і створанага тут жа, побач, рукамі чалавечымі. У пейзажах Анатоля Волкава прысутнасць чалавека заўсёды адчуваецца.



Зіма.



Згуляем?



Ілюстрацыя да ўкраінскай казкі «Саламяны бычок».

Як толькі параўноўваеш створанае Анатолем Волкавым са створаным яго папярэднікамі і калегамі, пераконваешся: сярод мастакоў, якія працавалі і працуюць у аналагічнай манеры, у Анатоля Волкава свой адметны почырк, свой голас. Можна нават адзначыць, што яго па почырку заўсёды пазнаеш. А гэта—немалаважна.

Што ж датычыць яго акварэльных тэматычных кампазіцый — ледзь не кожная з іх вартая карціны, пісанай маслам. Заўсёды ясная і хвалюючая задума. Дасканалае, арыгінальнае вырашэнне. Ён надае шмат увагі нюансам перажыванняў персанажаў.

Што ж, і чарговая выстаўка мастака пераконвае: працуе ён многа і цікава. Майстэрства яго — высокае. І служыць людзям. Яго творчасць блізкая і зразумелая як тонкім знаўцам выяўленчага мастацтва, так і мала падрыхтаваным аматарам.

Уладзімір БОЙКА.

Мікалай
ГАНЧАРОЎ,

правадзейны член Акадэміі педагагічных навук СССР.

# ЯН АМОС КОМЕНСКІ І СУЧАСНАСЦЬ



**Народы сацыялістычных краін, сусветная прагрэсіўная грамадскасць адзначаюць у 1970 годзе 300-годдзе з дня смерці вялікага чэшскага педагога, філосафа, мысліцеля Яна Амоса Коменскага.**

**З дазволу часопіса «Советская педагогика» АДН прапануе чытачам артыкул (са скарачэннямі), прысвечаны памяці выдатнага педагога.**

ПРАЙШЛО 300 гадоў з дня смерці выдатнага чэшскага педагога Яна Амоса Коменскага. Гісторыя паказала ўсю веліч яго навуковых адкрыццяў не толькі ў педагогіцы, але і ў лінгвістыцы, філасофіі, этыцы і эстэтыцы.

Коменскі менш за ўсё быў кабінетным вучоным, чалавекам, адарваным ад жыцця. Ён знаходзіўся ў гушчыні жыцця эпохі. Гэта быў усебакова адукаваны для свайго часу чалавек, у вышэйшай ступені дзейсны, актыўны.

Дэмакратызмам, гуманізмам пранізаны ўсе кнігі Коменскага. Ён бачыў, што ў феадальным грамадстве пануюць насілле, прыгнёт, прадузятасць. «Сучасная філасофія, тэалогія і палітыка наскрозь прасякнуты тэндэнцыйнасцю, інтрыганствам, насіллем»,—піша ён у «Агульнай парадзе аб выпраўленні спраў чалавечых» і раскрывае антынародны характар грамадскіх устояў, спрабуе абгрунтаваць неабходнасць перабудовы ўсяго жыцця не толькі ў сваёй краіне, але і ва ўсім свеце.

Перш за ўсё, лічыць ён, патрэбна асвета для ўсіх і кожнага. Асвета—неабходная ўмова шчасця на зямлі.

Коменскі — пачынальнік педагогікі як навукі. Само жыццё, барацьба з прыгнятальнікамі прадвызначылі з'яўленне новай педагогікі, і Коменскі яе стварыў. Новая педагогіка, створаная ім, была накіравана на выхаванне людзей усебакова адукаваных, гуманных, якія разумеюць задачы чалавецтва.

Найвялікшай заслугай Коменскага з'яўляецца тое, што ён абгрунтаваў ідэю адзінай школы для ўсіх дзяцей, незалежна ад іх паходжання і грамадскага становішча бацькоў. У яго сістэме няма тупіковых школ, якія перашкаджалі б атрымаць далейшую адукацыю. Прынцып адзінай школы, распрацаваны і абгрунтаваны Коменскім, не атрымаў практычнага рашэння ні ў адной краіне свету аж да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, бо сапраўднае яго ажыццяўленне пазбаўляла пануючыя класы прывілеяў у адукацыі.

Перамога сацыялістычнай рэвалюцыі ў Расіі дала магчымасць стварыць самую дэмакратычную ў свеце сістэму народнай адукацыі. Адзіная школа, паводле слоў Луначарскага, у Савецкім Саюзе азначае, «што ўся сістэма нармальных школ ад дзіцячага сада да універсітэта ўяўляе адну школу, адну лесвіцу. Гэта значыць, што ўсе дзеці павінны паступаць у адзін і той жа тып школы і пачынаць сваю адукацыю аднолькава, што ўсе яны маюць права ісці па лесвіцы да яе найвышэйшай ступені». Цяпер ідэя адзінай школы ажыццёўлена ва ўсіх сацыялістычных краінах, у тым ліку і на радзіме Я. А. Коменскага—у Чэхаславацкай Сацыялістычнай Рэспубліцы.

Коменскі лічыў, што прафесіянальнай адукацыі павінна папярэднічаць агульначалавечая. «Мы імкнёмся да агульнай адукацыі ў галіне ўсяго чалавечага для ўсіх, хто нарадзіўся чалавекам,—пісаў ён.— Значыць, трэба весці ўсіх разам да таго часу, пакуль можна весці, каб усе ўзаемна адзін аднаго натхнялі, заахвочвалі, стымулявалі». Ідэя Коменскага аб агульначалавечым выхаванні была падхоплена ўсімі перадавымі педагогамі—Русо, Песталоцці, Дыстэрвегам, Бялінскім, Піраговым, Ушынскім. Па гэтым пытанні многа пісалі Н. К. Крупская і іншыя савецкія вучоныя.

Дэмакратызм і гуманізм вялікага педагога праяўляўся і ў тым, што ён ва ўмовах феадальнага грамадства горача абараняў права жанчын на аднолькавую з мужчынамі адукацыю. Раздзел IX яго «Вялікай дыдактыкі» не выпадкова названы «Школам патрэбна давяраць моладзь абодвух полаў».

Коменскі прапаноўваў ідэю ўсеагульнага навучання—«вучыць усіх усяму». Новая для эпохі, яна не страціла свайго значэння і ў нашы дні.

Больш за ўсё вялікі вучоны падкрэсліваў значэнне агульнай адукацыі для развіцця навукі, якая павінна быць накіравана на развіццё гаспадаркі, павышэнне дабрабыту народа. Але для таго, каб ажыццявіць усеагульную універсальную адукацыю, патрэбны матэрыяльныя рэсурсы. Коменскі лічыў, што сродкі, якія будуць укладзены ў народную адукацыю, хутка акупяцца.

Спалучэнне адукацыі з развіццём усіх фізічных і духоўных здольнасцей чалавека падначалена ў Коменскага задачы авалодаць законамі прыроды, прымяняць гэтыя законы, выкарыстоўваць рэчы на карысць людзям. Праблеме «чаму вучыць?», гэта значыць зместу адукацыі, прысвечаны многія яго работы.

Перш чым вызначыць, чаму і як вучыць, трэба было высветліць мэту адукацыі і выхавання. «Мэта школы, — пісаў Коменскі, — павінна заключацца ў тым, каб чалавек адпавядаў свайму прызначэнню, гэта значыць, каб ён атрымаў адукацыю ва ўсіх тых пунктах, якія ўдасканальваюць чалавечую прыроду». Значыць, мэта выхавання не прыўносіцца звонку, а выцякае з самой прыроды чалавека, яна вядзе да яе ўдасканалення.

Сутнасць усіх прац Коменскага зводзіцца да жыццесцвярджальнага аптымізму. Школа, на яго думку, павінна стаць майстэрняй гуманнасці, месцам радасці і самадзейнасці. А яго прыродны метад — гэта ўласна даследчы метад у сучасным яго разуменні. У тэарэтычным пазнанні рэчаў нельга давяраць чужым вачам або паведамленням, трэба прытрымлівацца прыроды.

Вядома, у вучэнні Коменскага многа супярэчлівага і непаслядоўнага. Але важна бачыць асноўную лінію, якая арыентуе на паляпшэнне жыцця на зямлі. І падначаленыя мэты выхавання, сфармуляваныя Коменскім, і асноўная мэта — чыста зямныя. Іменна гэтыя чыста зямныя мэты вызначылі змест адукацыі. Гэта была новая думка ў тэорыі педагогікі, выказаная не мімаходам у сувязі з філасофска-палітычным роздумам, як гэта было ў іншых мысліцеляў і ранніх сацыялістаў-утапістаў або ў Рабле і Мантэня. Гэта была цэлая педагагічная канцэпцыя, выказаная ў многіх працах, у тым ліку і ў «Вялікай дыдактыцы». Коменскі аказаўся сапраўдным рэвалюцыянерам у галіне педагогікі.

Праблема зместу адукацыі не толькі педагагічная, але і філасофская, і сацыяльна-эканамічная. Чалавечае грамадства ўвесь час развіваецца, развіваюцца навука, культура, тэхніка, мастацтва, і ўсё гэта знаходзіць сваё адлюстраванне ў змесце адукацыі. Зусім натуральна, што характар агульнай адукацыі вызначае і напрамак выхавання. Трэба таксама мець на ўвазе сувязь агульнай адукацыі з прафесіянальнай. Нельга ігнараваць і нацыянальныя асаблівасці і нацыянальныя традыцыі той ці іншай краіны.

Найвялікшай заслугай Коменскага з'яўляецца і тое, што ён рашуча адстойваў навучанне на роднай або, як ён гаварыў, мацярынскай мове. Навучанне на роднай мове ў той перыяд было не так педагагічнай, як палітычнай праблемай, бо родная мова разглядалася як аснова адукацыі, як сродак нацыянальнага аб'яднання народа, барацьбы супраць яго анямечвання, сродак развіцця нацыянальнай самасвядомасці.

Праблема зместу адукацыі распрацавана Коменскім на ўзроўні навуковых ведаў таго часу. Для вырашэння ж гэтай праблемы ў сучасны момант многія палажэнні яго састарэлі. Больш складаныя задачы стаяць сёння перад школай. Калі Коменскі марыў толькі аб усеагульнай універсальнай адукацыі, то Савецкая краіна —напярэдадні ажыццяўлення ўсеагульнай сярэдняй адукацыі моладзі. Але каб правільна вырашаць праблемы зместу адукацыі, неабходна вывучаць гістарычны вопыт. Трэба мець на ўвазе, што сучасныя тэарэтычныя палажэнні іншы раз з'яўляюцца толькі паглыбленнем і далейшым развіццём так званых састарэлых палажэнняў, ачышчаных жыццём і розумам ад аднабаковасці і фармальна-лагічных доказаў, пабудаваных на новай метадалагічнай аснове.

Наватарства Коменскага ў галіне тэорыі педагогікі і практычнай работы нельга разглядаць ізалявана ад яго палітычных і метадалагічных пазіцый. Яго педагагічныя пошукі былі спробай змяніць сучаснае яму грамадства. Гэтай асноўнай задачы была падначалена ўся яго дзейнасць і як філосафа, і як пісьменніка, і як публіцыста.

## ЗДЫМАЮЦЬ *фотааматары*

*З імем Аляксандра Глінскага чытачы сустракаюцца не ўпершыню. Здымкі гэтага фотааматара, выкладчыка фізічнага выхавання Мінскага медыцынскага інстытута, не раз друкаваліся на старонках нашай газеты.*

*Сёння прапануем вашай увазе тры асеннія эцюды А. Глінскага.*







# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

Петру КЭРАРЭ

## ПЕРАМОГА ФЭНІКІ

*З мінулага*

**Як раней мы выбіралі!**
**Да гарачкі ў галаве!**
**Цараністы, лібералы,**
**Ты адзін, а партый—дзве.**

**Цараністы, лібералы—**
**Махляры і абіралы.**

**Кожны тыкаў, кожны цыкаў,**
**Распанеўшы—панаваў.**
**Ліберал у нас—Фэніка,**
**Царaніст—таксама шышка,**
**Дядзька Гіцэ—канавал.**

**Крыкі злева, крыкі справа**
**У натоўпе зноў і зноў:**
**— Гіцэ вон!**
**— Фэніку слава!**
**— Слава Гіцэ!**
**— Не, далоў!**

**Быў дзень выбараў на сконе,**
**А на плошчы тлум і свіст.**
**Пераможа хто з іх сёння—**
**Ліберал ці цараніст!**

**Тыя ж ходзяць асцярожна:**
**Галасы б сабраць спаўна.**
**Да шынка падвозіць кожны**
**Бочку лепшага віна.**

**— Выбірай, народ Малдовы,**
**Надалей з кім шлях тарыць,**
**Нашы партыі гатовы**
**Задарма цябе спаіць!**

**Зноў зямля дрыжыць ад крыку,**
**Зноў: «Няхай жыве Фэніка!»**
**Толькі раптам з-за вугла**
**Зараўлі: «Далоў Фэніку!**
**Гіцэ слава і хвала!»**

**Бочка Гіцэ, як званіца,**
**Глушыць, валіць з ног людзей.**
**Як жа тут не пагадзіцца:**
**Яго партыя—мацней!**

**Як рубчак кадзільны зелля**
**Дзербалызнеш — і амінь!**
**Атрымаеш на пахмелле,**
**Толькі голас, голас кінь...**

**Гіцэ з раніцы цвярозы**
**Пеўнем ходзіць па двары.**
**Толькі меў Фэніка козыр**
**У сакрэце да пары.**

**Ён не збег з майдана ўпрочкі,**
**Ён партыйны гонар меў:**
**Прыкаціў яшчэ тры бочкі,**
**Прыхаваныя за хлеў.**

**— За абранніка Фэніку! —**
**Зноў падбрэхачы ўзраўлі.**
**Нават Гіцэ крыкнуў дзіка:**
**«І мяне не абдзялі!»**

Пераклад з малдаўскай
А. ГРАЧАНІКАВА.

Н. КОЗЕЛ

## З ПАДСЛУХАНАГА

*— Скуль у цябе, Віця, такі прыгожы ліхтарык?*
*— Гэта мне мама купіла.*
*— Ты што, стаў добра вучыцца, двоек больш не маеш?*
*— Ды не. Гэта я згадзіўся, каб мяне падстрыглі.*

□

*— Як будзем стрыгчыся, малады чалавек?*
*— Пад польку.*
*— З адэкалончыкам?*
*— Не, не трэба.*
*— Ясна. Тады пад Катоўскага.*

□

*Муж выклікаў на дом урача.*
*— Хто тут у вас хворы?*
*— Ды з жонкай дрэнна. Ужо трэці дзень не размаўляе са мной.*

Л. ЛАЎРОЎСКІ

## ТЭРМІНОВЫ ЗАКАЗ

У вялізным светлым пакоі панавала цішыня. Чуўся толькі мяккі шоргат алоўкаў: архітэктары шчыравалі над распластанымі ватманамі.

Раптам пачуўся тонкі далікатны свіст. Нехта паціху выцэджваў праз зубы «Зорку Венеру».

— Пачынаецца, — уздыхнула смуглявая дзяўчына. — Зноў, Міхась, узышла твая зорка?

Але Міхась Стратановіч, альбо проста Стратон, нічога не адказаў.

— Стратон зараз нічога не чуе, як раз'юшаны цецярук,—усміхнуўся дзяўчыне сусед.

У пакой зайшоў галоўны інжынер. Пачуўшы свіст, ён прыслухаўся, спрабуючы запеленгаваць самадзейнага салаўя.

«Няўжо Стратановіч? Лепшы архітэктар!» — галоўны інжынер падышоў бліжэй да Міхася, а той быццам нічога не чуў і не бачыў, шчыраваў над паперай.

— Міхась Пятровіч, з якой нагоды канцэрт? Вы ж не ў лесе?

— Даруйце, Андрэй Іванавіч, захапіўся...

Сярдзіты шэф доўга глядзеў на чарцёж, але не знайшоў, да чаго можна было б прычапіцца: усё было бездакорна.

— Калі ж вы паспелі зрабіць?

— Свіст памагае, Андрэй Іванавіч. Натхняе...

— Але ж свістунам сёння зарплаты не будзе. І прагрэсіўкі!

Вакол засмяяліся. Толькі Стратановіч быццам не чуў смеху і сур'ёзна тлумачыў:

— Свістаць мяне навучыла маці. Ці ведаеце вы, Андрэй Іванавіч, што такое жлукта? Не? Гэта бочка без дна. У ёй бялізну запарвалі, жлукцілі, як тады гаварылі. Уявіце сабе. На беразе рэчкі гарыць цяпельца. Маці грэе ваду ў чыгунах. Калі ветру няма, цяпельца ледзь курыцца. Вось маці і казала мне: «Свішчы, сынок, каб прачнуўся вецярок». Я свістаў і... вецер прачынаўся, полымя шугала. Вось і прывык свістаць. За работай. Для натхнення...

— Ну што ж, у такім разе дазваляю, — усміхнуўся Андрэй Іванавіч.

На другі дзень у кабінет галоўнага інжынера зайшоў усхваляваны старшыня мясцкома:

— Андрэй Іванавіч, што гэта робіцца? Ідзіце, паслухайце! Не пакой, а пчаліны рой! Свішчуць, як шпакі веснавым ранкам...

— Не турбуйце іх, Харытон Пятровіч. Заказ тэрміновы. Хай шчыруюць.



—... а яшчэ перадай, што раскопкі зацягваюцца. Мал. М. ЧАРНЯЎСКАГА.

Мал. Ю. ГРЫГОР'ЕВА.

## З НЯМЕЦКАГА ГУМАРУ

### У ШПІТАЛІ

Надпіс на прыёмнай шпіталя апавяшчаў: «Просім паважаных пацыентаў не абменьвацца сімптомамі хвароб, бо гэта вельмі дэзарыентуе ўрачоў».

### НА ВАЙСКОВЫХ ЗАНЯТКАХ

Камандзір узвода, які праводзіць заняткі, пытае ў салдата:

— Радавы Майер, што б вы рабілі, калі б, стоячы на пасту, адчулі, што нехта вас абдымае?

— Я б сказаў: «Інга, не сваволь, я на службе!»

### КЕМЛІВЫ

Яфрэйтар Шульц імчыць стрымгалоў па лесвіцы. Настрой у яго бадзёры, і салдат не заўважае камандзіра.

— Чакайце, яфрэйтар!

— Слухаю, таварыш старшы лейтэнант!

— Вы што, генералам, пэўна, сталі, што не вітаецеся?

— Яшчэ не, таварыш старшы лейтэнант, але мне яшчэ амаль паўгода служыць!

### ЛЮБІМАЯ ГАЗЕТА

— Ведаеш, Мюлер, аказваецца, пазнаёміўся са сваёй жонкай праз газету.

— Ну і як, яны ладзяць?

— Не ведаю, але Мюлер больш не выпісвае сваёй любімай газеты.

### УЗОРНЫ ПЛЯМЕННІК

— Ну, як маешся, пляменнічак? Настаўнік табой задаволены?

— О, ды яшчэ як! Учора, напрыклад, ён сказаў, што каб усе хлопчыкі былі такія, як я, то школу можна было б закрываць.

Пераклад А. БУБНА.




— Ну пэўна ж, з-за тваіх збораў паўфільма прапусцілі! — засыкала пані Лонка на свайго мужа, калі яны ўвайшлі ў цёмную залу.

Білецёр кішэнным ліхтарыкам асвятліў ім дарогу да іх месцаў. Некалькі разоў яны наступалі некаму на ногі, пакуль, нарэшце, уселіся.

— Я табе ўжо сотні разоў гаварыла, каб не браў такіх білетаў, — злавалася Лонка. — Якое цеснае крэсла! Куды тут падзець калені?!

Прайшло хвіліны дзве. Лонка зноў нахілілася да мужа:

— Слухай, гэтага больш трываць нельга! Ты павінен нешта зрабіць. Чуеш, Пётр, я не вытрымаю!

— Ну, што яшчэ?

— Ты што, не чуеш? Гэтыя двое перад намі. Проста нецярпіма!

І сапраўды. Перад імі сядзелі тоўстая жанчына і малы, таксама тоўсты мужчына. Жанчына бесперапынку штосьці шаптала свайму суседу. Яна старалася гаварыць шэптам, але ўсё было добра чутно.

— О, Лаёш, глядзі, глядзі! Во-во, слон у яму правальваецца! Не, абмінуў. Шкада, я б хацела паглядзець, як ён... О, абхапіў дрэва хобатам! Вырывае! Які жах! Негр абавязкова зваліцца. Вось, бачыш? Божа літасцівы, ён скача! Паглядзі толькі! Калі ён будзе жэрці негра, ты, Лаёш, заплюшчы вочы! Табе нельга хвалявацца. Ты помніш, што сказаў урач?

— Хіба я павінна ўвесь час слухаць такое? — расхвалявалася пані Лонка.

Пётр нахіліўся, злёгку крануў плячо суседа:

— Калі ласка, васпане, ці не маглі б вы трошкі цішэй?

Суседзі прыціхлі, але не надоўга. Калі мужны паляўнічы сеў у сваю лодку і паплыў уніз па рацэ, якая кішэла кракадзіламі, тоўстая жанчына зноў ажывілася:

— Глядзі, Лаёш, во якія ёсць героі! Вядома, каб абразіць жанчыну ў кіно, не патрэбна вялікага геройства!

— Ты скажы гэтай персоне пасля сеанса маю думку, Пётр! — патрабавальна сыкнула Лонка.

Урэшце фільм скончыўся. Скончыўся і шэпат тоўстай жанчыны. Яна крочыла па вуліцы папераздзе, ведучы пад руку свайго мужа.

— Ідзі і скажы ім усё,—загадала Лонка.

І Пётр пайшоў, бо ведаў, што, калі ён не паслухаецца, жонка будзе пракаць яго штодня. Ён зрабіў два крокі і пазнаў у мужчыне колішняга свайго даўняга сябрука, якога ўжо даўно не бачыў.

—Дазвольце! — рэзка прамовіў ён. — Я хацеў бы вам сказаць...

— Пётр, — сказаў Лаёш, калі яны адышліся на такую адлегласць, што жонкі не маглі іх чуць, — дарагі Пётр, не сярдуй. Разумееш, мая жонка...

—Я разумею, Лаёш! Але — я рады цябе бачыць. Дзе б мы маглі заўтра сустрэцца?

— Давай у кафэ «Брыстоль». З трох да чатырох.

— Згода, дружа!

А жонкі здалёк назіралі за імі.

— Ты ўсё як мае быць сказаў яму? — спытала таўстуха.

— Ты яшчэ пытаеш! Ён можа быць рады, што так лёгка адрабіўся!

— Ты належна з ім расквітаўся? — спытала пані Лонка.

— Ён тысячу разоў прасіў прабачэння. Яго жонка фурыя. Небарака, варты жалю.

З венгерскай.
Пераклад М. Валошчыка.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі

Індэкс 63856. АТ 21174

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісы не вяртаюцца.